Ніл Гілевіч

# Кантора

Сатыра і гумар

Мінск «Мастацкая літаратура» 1989

ББК 84 Бел 7
Г 47

С позиций здорового народного взгляда на жизнь автор язвительно высмеивает различные негативные явления нашей действительности, рисует запоминающиеся типы пройдох от науки, культуры, литературы, хапуг, карьеристов, бюрократов, пустозвонов. Написанные в фольклорных традициях, сатирические и юмористические произведения Нила Гилевича читаются с интересом, запоминаются.

Г $\frac{4702120202-028}{М\ 302(03)-89}$ 45—89

ISBN 5-340-00188-1

## *Пісьменнікі і чытачы пра сатыру і гумар Ніла Гілевіча*

**«...У паэзіі Ніла Гілевіча ў вельмі выразнай форме знайшлі выяўленне грамадзянскасць, скандэнсаваная сацыяльнасць, аб чым сведчаць яго шматлікія лірычныя і ліра-эпічныя творы і асабліва ягоныя сатыра і гумар, у якіх паэт мае свой непаўторны голас, свой характэрны смех і сваю іронію. Сіла ягонай пагарды і выкрыцця такая вялікая, а смех такі з'едлівы, што часам здзіўляе ягоная здольнасць пераходу да вельмі шчырай замілаванасці, дабрыні і пранікнёнага лірызму ў вершах і паэмах іншага характару, у лірычных творах, дзе Ніл Гілевіч паказвае зусім іншыя грані свайго таленту. Гэтыя два розныя бакі яго творчасці зпітоўваюцца адной моцнай, я сказаў бы, высакароднай якасцю, якую можна вызначыць як фальклорную, вельмі народную, што ідзе з самых вытокаў беларускага жыцця, з яго нацыянальнага характару і ягонай гісторыі».**

*Васіль Быкаў,* з прадмовы да кнігі Н. Гілевіча «Святлынь», Мінск, 1984.

**«Аматар дасціпнага вострага слова, сам майстар у гэтай галіне, Ніл Сямёнавіч з асаблівай ахвотай перакладае сатыру і гумар нашых балгарскіх пабрацімаў».**

*Кандрат Крапіва,* з прадмовы да кнігі Н. Гілевіча «Пераразараджаным набоем», Мінск, 1981.

**«Як правіла, крытыкі і даследчыкі, аналізуючы яго паэзію, на першае месца ставяць лірыку і толькі**

мімаходзь упамінаюць гумар і сатыру. Між тым адна з галоўных іпастасей Гілевіча-паэта праяўляецца перш за ўсё ў гумарыстычным і сатырычным ключы. Мноства ўродлівых тыпаў намаляваў паэт, але з асаблівай палымянасцю закляйміў прыстасаванцаў і рэнегатаў, двудушных кар'ерыстаў, шаманаў беззмястоўнага, але крыклівага слова. Да вяршынных дасягненняў Гілевіча-сатырыка належыць вершаваная камедыя «Формула іржавіны»...»

*Дзмітро Паўлычка,* з прадмовы да кнігі Н. Гілевіча «Избранное», М., 1987.

«...Мне было вядома, што, апрача лірыкі, у паэзіі Ніла Гілевіча некалькі нечакана заўважны сатырычны струмень. Ён выпусціў шэраг прыкметных зборнікаў — «Да новых венікаў», «Ці грэх, ці два» і іншыя. Але ў яго рускіх кніжках на гэта і намёку няма... А Ніл Гілевіч не проста гумарыст, але яшчэ і сатырык, парой кінжальны...»

*Аляксей Кандратовіч,* «Призвание», М., «Советский писатель», 1987.

«Паэт і раней працаваў у гэтым жанры, шмат якія яго сатырычныя і гумарыстычныя вершы і дагэтуль «нясуць службу» ў калектывах мастацкай самадзейнасці, гучаць у рабочых і сельскіх клубах. Узнімаючыся над канкрэтнымі жыццёвымі эпізодамі на ўзровень абагульнення, паэт часам стварае адмоўныя сацыяльныя тыпы і маральна знішчае іх».

*Анатоль Грачанікаў,* газета «Літаратура і мастацтва», 1971.

«Зборнік Н. Гілевіча перш за ўсё і падабаецца таму, што ў ім узяты на дакладны сатырычны прыцэл людзі абыякавыя і косныя, чые сэрцы зачарсцвелі, а душы заплеснелі, тыя, хто імкнецца ўзяць ад нашага грамадства як мага больш, а даць яму як мага менш.

Удала напісаны і іншыя «замовы». Большасць з іх вылучаецца арыгінальнасцю, дасціпнасцю і свежасцю мовы. Дарэчы, уся кніжка сведчыць аб тым, што яе аўтар добра валодае народнай мовай і нядрэнна дасведчаны ў асаблівасцях фальклору. Даволі павучальны вопыт з «замовамі» зноў і зноў гаворыць аб тым, што невычэрпныя фальклорныя багацці нашага народа тояць у сабе мноства самых нечаканых і разнастайных магчымасцей для выкарыстання іх у літаратуры. Трэба толькі ўмець падбіраць ключы да гэтых скарбаў».

*Аляксей Зарыцкі,* газета «Літаратура і мастацтва», 1963.

«Ва ўсім, што трапляецца пад сатырычны прыцэл паэта, у кожным яго вобразе мы адчуваем прысутнасць народнага погляду на жыццё, непасрэднасць бачання фактаў, размоўную шчырасць інтанацый, якая так натуральна і ёміста выяўляе характары самых розных персанажаў.

Адной з характэрных асаблівасцей сатыры і гумару Н. Гілевіча з'яўляецца іх блізкасць да фальклору. Гэта адчуваецца і ў дасціпнасці моўных сродкаў, і ў спосабе абмалёўкі вобразаў, і ў прыёмах кампазіцыйнай арганізацыі жыццёвага матэрыялу... Уражанне ўзмацняецца той сапраўды чароўнай моўнай стыхіяй, той слоўнай вынаходлівасцю, у якой паэт, здаецца, невычэрпны».

*Пятрусь Макаль,* «Полымя», 1974, № 11.

«Ніл Гілевіч — аўтар некалькіх зборнікаў гумару і сатыры... Яны заслугоўваюць асобнай размовы як прыкметная з'ява ў нашай літаратуры і вызначаюцца дасціпнасцю, камізмам сітуацый і трапнасцю, натуральнасцю дзеяння (што стала, на жаль, ужо рэдкасцю ў нашых «чыстых» прадстаўнікоў сатырычнага

**цэха) і высокім майстэрствам, асабліва прыкметным на фоне слоўнай беднасці, натужнай вобразнасці, штучнасці сітуацый, і кампазіцыйнай пяскладнасці многіх іншых гумарыстаў. Між іншым, і тут, у гумарыстычных вершах, Ніл Гілевіч увесь у пошуку — сюжэтна-тэматычным, жанравым, слоўна-вобразным. Піша прытчы і байкі; адштурхоўваючыся ад народных узораў, стварае «сучасныя замовы-загаворы»; не цураецца эпіграмы і пародыі; з поспехам карыстаецца сюжэтна-апавядальным вершам».**

*Ларыса Кароткая,* «Маладосць», 1975, № 4.

## *Практыкаванне па граматыцы*

«Сярод людзей жыве смярдзюк» —
На дошцы вывеў словы,
Падаючы азы навук,
Настаўнік роднай мовы.

— Цяпер,— зірнуў ён на дзяцей,—
Запішам сказ іначай:
«Смярдзюк жыве сярод людзей».
І што мы, дзеткі, бачым?

Што трохі іншы стаў акцэнт
І выгляд сказа знешні.
А ў цэлым змест? Агульны сэнс?
Змяніўся? Не, канешне!

Цяпер, на одум галаве,
Яшчэ раз пераставім:
«Сярод людзей смярдзюк жыве».
Змянілі сэнс тым самым?

Ні трохі! Як ні круцім сказ —
А сэнс яго нязменны:
Смярдзюк — жывы і ён — між нас,
Сярод людзей сумленных.

Вось гэтак, дзеткі, і ў жыцці:
Пакуль мы церпім, людзі,—
Як ні круці і ні вярці —
Смярдзюк смуродзіць будзе.

*1987*

## *Як ні паглядзі*

На морду спераду зірну —
А каб цябе халерачка!
На карак гляну, на спіну —
А каб цябе халерачка!
І злева вокам павяду —
А каб цябе халерачка!
І з боку правага зайду —
А каб цябе халерачка!..
Адкуль і як ні кінь пагляд —
Манументальны бюракрат!

*1987*

## *Яго лексікон*

Якую мову мае
Краіна Беларусь!
А ён — тры словы знае:
Акыш! Апсік! Аюсь!

І больш яму не трэба!
Ад іншых ён адвык.
Яго закон і крэда:
Аюсь! Акыш! Апсік!

Прыйшоў народ рабочы —
Язэп, Кузьма, Пятрусь,
А ён казеліць вочы.
— Аюсь! — крычыць.— Аюсь!

Прыйшлі к яму са скаргай
Марыля і Анціп,
А ён на іх з пагардай.
— Апсік! — крычыць.— Апсік!

Прыйшлі і Ганна з Зосяй —
На сэрцы ў кожнай крыж,
А ён на іх са злосцю.
— Акыш! — крычыць.— Акыш!

Дакуль жа слухаць мусім
Чынушы-хама крык?
Пара яго з «аюсем»
«Акышнуць» на «апсік»!

*1987*

## *Урок сучаснага танца*

Танец не вельмі складанай навукі:
Станьце й таўчыце нагамі памост,
Скурчыўшы — соўгайце перадам рукі,
Быццам бы фігі партнёру пад нос.

Твар пажадана зрабіць абалдзелы —
Цэніцца зараз уменне «балдзець».
Помніце: трэнінг выключна для цела!
Дух ні пры чым тут — хай стоіцца дзесь!

Танец асвоіла ўсё заграніčча:
Лондан і Вена, Нью-Йорк і Бамбей...
Чэравам, чэравам больш энергічна!
Сцёгнамі, сцёгнамі больш весялей!

Хай сабе круціць там польку ці вальса
З бабкай Грыпінаю дзед Панцялей.
Таліяй, таліяй болей віхляста!
Бёдрамі, бёдрамі больш весялей!

Што за няёмкасць? Куды гэта варта?
Кіньце прыстойнасць на сметнік скарэй!
Пупікам, пупікам болей азартна!
Копчыкам, копчыкам больш весялей!

Прэч сарамлівасць! І цноту — да д'ябла!
Секс распаляйце ў партнёра смялей!
Персямі, персямі болей заядла!
Чрэсламі, чрэсламі больш весялей!..

Так і таўчыце, віхляйце, «балдзейце» —
Вельмі не блага засвоілі ўрок!..
Заўтра на танец хай прыйдуць і дзеці —
Трэба ж скіроўваць і ў будучынь зрок.

*1978*

## *Дулі на вярбе*

Колькі чыннасці, пагляньце,
Колькі важнасці ў хадзе!
Туфлі рыпаюць пад глянцам:
«Прэч з дарогі! Туз ідзе!»

Самавіты, гладкапысы,
Лыч задзёрты ўверх глядзіць.
Каля ёмкай, бачна, місы
З добрай лыжкаю сядзіць!

Хто такі ён? Не гадайце!
Гэта вам не бобу струк —
Кандыдат не то грамадскіх
І нібы сельгаснавук!

Ён паспеў зрабіць у тэрмін —
У навуцы страшны гвалт —
Дысертацыю на тэму
З доўгай назваю накшталт:

«Барацьба за вырашэнне
Тэмы «Дулі на вярбе»
На этапе завяршэння
Перамогі ў барацьбе».

А працей і болей строга
Тэма вызначана так:
«Як, не робячы нічога,
Можна піць і есці ўсмак».

Дык і есць! І хлеб салодкі!
Не гарчывы анічуць!

За якую ж ласку ўсё-ткі
Гэткі харч яму даюць?

Ці не час, сабраўшы думы
«На этапе барацьбы»,
Пасадзіць яго на дулі
З гэнай самае вярбы?

*1964*

## *Шаманы*

Не веру шаманам. Не веру здаўна.
Дый нельга ім верыць, шаманам.
Ва ўсякім шаманстве — няпраўда адна.
Шаманы гандлююць спадманам.

Кажу не пра тых я, што ў нетрах тайгі
На стойбішчы даўнім ля чума
Лупілі, шаманячы, ў бубен тугі,
Гукалі і трэсліся чумна.

Кажу пра шаманаў, што побач жывуць,
Што маюць зямныя пасады,
А ўсё-такі хлеб за шаманства ядуць
І хлебу шаманскаму рады.

Вось гэты прамоўца — ну, чым не шаман?
Ці ж ён, на трыбуну залезшы,
У вочы людзям не пускае туман,
Каб выйсці на хлеб яшчэ лепшы?

А дзядзька «вучоны», што трыццаць гадоў
Па колбе пустой барабаніць
І столькі яшчэ нас ашукваць гатоў...
Скажыце: ці ж ён не шаманіць?

А хітры і спрытны пранырa-рыфмач,
Што фокусы робіць са слова,
Вядзьмарыць і круціць, а сэнсу — хоць плач.
Хіба ён не з тога ж «саслоўя»?

Ну, што ім наш клопат — сухмень ці няўрод?
Шаманы ж не жнуць і не сеюць.

І хоць у шаманства не верыць народ —
Шаманы жывуць і тлусцеюць.

Шаманы прабірак, шаманы пяра,
Шаманы трыбун і мастацтваў...
Давайце ж паможам — хіба не пара? —
Шаманам з шаманствам расстацца!

*1963*

## *Пра шпаргалку*

Чалавек прывыкнуць можа змалку
Да хлусні, да картаў, да віна.
Ну, а гэты — шанаваў шпаргалку:
Слабасць гэтакую меў здаўна.

На паперку дзень і ноч маліцца,
Як на бога, ён гатоў і рад:
Без яе ж нядоўга памыліцца
Ды што-небудзь ляпнуць неўпапад!

Выстаўляць сваю дурноту брыдка —
Знае сам, што мае ў галаве.
А чужое прачытае з спытка
І — глядзіш — разумным праслыве.

Стане гэткі тварам да народу
І пачне публічна жвачку жваць —
Быццам вешае на загароду
Ці прыйшоў павіннасць адбываць.

На радзінах, калі дом святкуе,
На хаўтурах, калі хто памрэ,—
Ці ён радуецца, ці смуткуе —
Хіба д'ябал-бацька разбярэ!

Лепей сто разоў на слове збіцца
(Дараваў бы ў сто разоў хутчэй),
Чым паперкаю адгарадзіцца
Ад гарачых сэрцаў і вачэй!

Сродак зжыў сябе яшчэ не цалкам,
Толькі ведай, жвачны чалавек:
Блізка ўжо канец тваім шпаргалкам —
Бесшпаргалачны прыходзіць век.

*1960*

## *Вярблюд на пляжы*

На пляжы для курортнікаў
Якіх не ўбачыш цудаў!
Халат, расшыты золатам,
На плечы ўздзенеш перш,
Чалму ўскладзеш на галаў,
Залезеш на вярблюда —
І ўжо не еўрапеец ты,
А самы чысты перс!

Паміж гарбоў усядзешся,
Надзьмеш ці скорчыш міну,
Пакуль «пустыню» ў загарадзі
Пройдзе «караван» —
Цябе фатограф шчоўкне —
Для родных, для ўспаміну —
І ўсё: вымай цалковы,
Шчаслівы перс Іван!

Ахвотнікі да цуда
Навыперадкі рвуцца.
Зірніце на любога,
Што тоўпяцца гурбой:
Гатоў калі не ў перса —
У чорта абярнуцца,
Каб толькі зведаць шчасце —
Не быць самім сабой!

Але адкуль жывёліне
Пра гэту корць дазнацца?
Не зразумець двухгорбаму
Культурных іх патрэб.
Заўпарціўся чагосьці —
Не хоча прыгінацца.

Дарэмна гаспадар яму
Піхае ў пысу хлеб.

Піхае і, раз'юшаны,
Касурыць вочы ў злосці:
Хэця б з-за гэтай прыкрасці
Не рвалася чарга!
І, яшчэ больш звярэючы,
Выкрыквае ён штосьці,
І палкай забастоўшчыка
Дубасіць як мага.

Чарговы ж «перс» абураны:
— Ах, чортава няўклюда!
Ты бач: ляніцца, дэрбіна,
На калені стаць!
(Калі б ён сам пад палку
Папаў замест вярблюда —
Ад першага удару
Прыкленчыў бы, відаць!)

Вярблюд,
Вярблюд,
Паслухай,
Гарбаты дурань мілы:
Ты ж калісь вельмі здорава
Пляваца ўмеў, вярблюд?
Чаму ж не плюхнеш зараз
З усёй вярблюджай сілы —
На гэты свой заробак,
На гэту службу тут?

*1964*

## *Даяры*

Ці ты дзяцюк, ці ты стары,
А калі жыць нявесела —
Ідзі хутчэй у даяры:
Цудоўная прафесія!

Уволю, браце, будзеш піць
І сырадой і скіслае.
А што даіць? Каго даіць?
Пытанне, брат, нясціплае.

Хоць мо і сорамна, але ж
Хай будзе ўсё наяснуюо:
Каго яшчэ надоіш лепш,
Як не дзяржаву ўласную?

Дзяржава — гэта, браце мой,
Кароўка вечна дойная:
І летам дудзяць і зімой,
А вымя — як бяздоннае.

Яна, мой браце, з тых кароў,
Што век не запускаецца.
Таму і процьма даяроў
Каля яе ўвіхаецца.

На іншай дойцы — аж чарга,
Аж звон наўкол насудачны.
Бо кожны ж пнецца як мага
Надой павысіць сутачны!

Вядома, тым куды лацвей,
Хто у чарзе не нудзіцца —
Ідзе і дудзіць зразу ў дзве,
Каб у адвал надудзіцца.

Хай дурань хлеб сумленны свой
Усухамятку коўтае,
А ты глядзі, каб быў надой,
Дык будзе й масла жоўтае!

Даі, браток, і не шманай —
Сяяці вачмі нявіннымі.
І дзетак родных навучай —
Хай не растуць наіўнымі.

Каб і яны сярод людзей
Былі на дойцы ўпраўныя —
Заместа матчыных грудзей
Падсоўвай ім дзяржаўныя!

Ну, а калі ўжо, не дай бог,
Цябе на рогі вострыя
Кароўка ўздыме — з ейных рог
Адна дарожка простая.

І будзеш грызці сухары,
І дні лічыць нявесела...
І скажаш сам, што даяры —
«Цудоўная» прафесія!

*1969*

## *Балада*
## *пра фігавы лісток*

У старажытнасці калісь,
Паколькі сорам зналі,
Зрывалі людзі з фігі ліст
І сорам прыкрывалі.

Пасля, як болей набылі
Этычнае культуры,
Насіць хітоны пачалі,
Спадніцы, гарнітуры.

Ды, калі шчыра гаварыць,
Не згінуў спосаб даўні —
Як сарамоцішча прыкрыць
На выпадак скандальны.

На культасветнай ніве ў нас
Ёсць гэтакі чынуша:
Лісток знаёмы напаказ
Чапляе не міргнуўшы.

Спытай, для прыкладу, пра штось
З гісторыі айчыннай —
Ён тыц у фігавы: «А вось!
Даследуем — чын чынам!»

Спытай пра матчыну душу,
Паніклы ад гаркоты,
Ён тыц у фігавы: «Прашу!
Ці ж мы не патрыёты?!.»

Вось так і тыцкаў шмат гадоў,
І тыцкаў бы бясконца,

Але ён жонку ў штат увёў —
Патрэбна ж месца жонцы.

Яна той фігавы лісток
Паблытала з лаўровым,—
Сарвала, кінула ў гаршчок —
І сорам стаўся голым!

*1986*

## *Кусака*

Нізашто людзей кусаць —
Мой занятак звыклы.
Не для іншага ж, відаць,
Даў мне божа іклы.

Шмат каго я пакусаў
Са сваіх знаёмых.
Аж парой дзіўлюся сам:
Вось дзе я не промах!

Больш кусаю — больш карціць.
Проста сверб у пашчы!
І каго ж бы мне ўкусіць —
Прычасціцца нашча?

Я во гэтага б хацеў
Паласнуць разцамі —
Каб аж з крэсла паляцеў
Дагары нагамі!

Дык халера на яго —
Сам ён мае зубы:
Невядома, хто каго
Давядзе да згубы.

І вунь гэнага б угрыз —
Да вантроб-пячонак:
Ён ад славы аж азыз
Між тузоў вучоных.

Дык жа ў нашай галіне
Уплывовы вельмі:
Не прыйшлося б часам мне
Выказеліць бельмы?

І таго б вунь я ўкусіў —
Добра гламзануў бы!
Каб да смерці знак насіў.
Не люблю зануды!

Дык жа ён паспеў заняць
Важную пасаду:
Давядзецца палізаць
Дзеля дружбы-ладу.

Гламзану я... так і быць!
Хоць жыве пачэсна —
Ён не ўмее ў зубы біць
І не мае крэсла!

Ад яго я ні на грам
Ні ў чым не залежу.
Вось дзе іклам волю дам —
На шмаццё здрапежу!

*1981*

## *На форум!*

Няхай і згрыбеў я,
І чуюся хворым,
Старым і нямоглым —
Паеду на форум!
Хоць вельмі далёка
І кратацца нехаць —
Паеду! Бо можа
Хтось іншы паехаць!
А будзе ж
Не проста нарада,
А форум.
І будзе ва ўсіх там
На ўзроўні дэкорум.
І камеры
Будуць наводзіць
Старанна —
Для прэсы,
Для тэле-
І кінаэкрана.
Вядома,
Там выседзець
Будзе мне цяжка:
Звядзе паясніцу,
Адымецца ляжка...
Таму я з сабою
Вазьму раскладушку,
Каб там жа прылегчы
І выдаць «храпушку».
На выпадак горшы —
Асіп ці закашляў —
Вазьму медсястру я
З куфэркам лякарстваў.
Вазьму і суфлёра —

Каб мне мае думы
Падказваў, як буду
Гагакаць з трыбуны...
А кліч мой галоўны
Там будзе адзін:
«Гэй, моладзі здольнай
Дарогу дадзім!..»

*1987*

## *Моська*

— Моська, Моська, на-на-на!
— Хто там кліча Моську?
Мемуары пра Слана
Я пішу патрошку.

Ён памёр, той слаўны Слон.
Вось і будзе помнік.
Як брахаў я, калі ён
Паяўляўся, скромнік!

Як я шчыра якатаў!
Думаеш — ад злосці?
Гэта ж я яго вітаў
І прасіў у госці!

Па суседству доўгі час
Мы жылі сябрамі.
І пытаўся ён не раз,
Калі чарку бралі:

«Як ты думаеш, сусед,
Будзе нейкі выйгрыш,
Калі я зламлю хрыбет
Паласатай тыгры?..»

Я ж у гэтай справе толк
Ведаў, дзякуй богу,
І казаў: «Ламай, браток!
Акажу падмогу!..»

Вось табе і «на-на-на»!
Слухай — ды прымоўчы!..
Будзе кніжка пра Слана
Водгук мець станоўчы.

*1986*

# *Тры лірычныя маналогі адного паэта*

А хто вочы мае,
Той сябе пазнае.

## *1. За чаркай у Адася*

— Ну, будзь здароў, браток Адась,
Хай табе божа сілы дасць!
Ты, брат, не тое, што Карусь
Або той ёлупень, Габрусь!
Ты — чалавек сур'ёзны, шчыры,
А тыя — шэльмы і праныры,
Хапугі, злыдні, прайдзісветы!
І вершаў знаць іх не хачу,
І за паэтаў не лічу!
Зваліся добрыя паэты!..
Калі казаць як ёсць — павер:
Паэт адзін ты ў нас цяпер!
І... не спрачайся, калі ласка!
Ну, дык давай кульнём, Адаська!..

## *2. За чаркай у Каруся*

— Ну, будзь здароў, браток Карусь,
Хай табе божа сілы дасць!
Ты, брат, не тое, што Габрусь
Або дурыла той, Адась!
Пра іх даўно ўжо знае ўсякі —
Зусім бяздарныя пісакі!
Што ні вазьмі — адна халтура,
Лухта і дрэнь! Макулатура!
Любы іх зборнік перавернеш —
Ну хоць бы дзе жывы радок!..
Наогул, што ў нас ёсць?..

Павер мне:
Адзін ты ў нас цяпер, браток,—
Адзін на ўсю на Беларусь!
Ну, дык давай кульнём, Карусь!..

### *3. За чаркай у Габруся*

— Ну, будзь здароў, браток Габрусь!
Хай табе божа сілы дасць!
Ты, брат, не тое, што Адась
Або той боўдзіла, Карусь!
Адась спачатку трохі браўся,
Але цяпер — канцы! Спісаўся!
Ну, а ў дурылы Каруся
І творчасць, брат, пустая ўся!
Такой бяздаршчыны адвеку
Яшчэ не бачыў, пэўна, свет.
Скажу табе як чалавеку:
Адзін ты ў нас цяпер паэт!
Скажу па праўдзе і па чэсці:
Ты самы першы сёння йдзеш.
Ты сцяг паэзіі нясеш!
А больш — няма каму і несці!..
Ну, дык за творчы наш хаўрус
Давай кульнём, браток Габрусь!..

*1960*

## *Да пытання аб класіфікацыі паэтаў*

Паэт на дачы з'еў ранет.
Пасля ўздыхнуў і склаў санет —
Аб тым, наколькі розны свет
І розныя паэты:
Чатырохсоткавы паэт,
І паўгектаравы паэт,
Зямлі бацькоўскае паэт,
Паэт усёй планеты...

*1987*

## *Іменем навукі*

«Што ты пішаш, баламутнік,
Аб гісторыі далёкай! —
Закрычаў у злосці лютай
Пані Догмы верны лёкай.—

Што ты ўзносіш? Што ты хваліш?
І куды ты цэліш-хіліш?
Хочаш даўні хлам і залеж
Прыцягнуць на слаўны фініш?

Пра які ты трубіш статут?
Пра якіх князёў у Крэве?
Пяць вякоў назад хвастаты
Продак твой сядзеў на дрэве!

А Гусоўскі ды Скарына,
Будны, Цяпінскі, Зізаній —
Гэта міф, які стварыла
Хэўра «контры» па ўказанні!

Дый Кастусь, што быў са шляхты!
Дый газетка «Наша ніва»!..
Не на той узбіўся шлях ты,
Каб разгледзець іх праўдзіва!

Так што кінь свае ты штукі
Ды шрайбуй, як я шрайбую.
Ведай: іменем навукі
Не прашу, а патрабую!..»

*1987*

## *Спрэчка над Іслаччу*

Не на з'ездзе, не на сходзе,
А над Іслаччу ў бары
Усхадзіліся ў нязгодзе
З горкім лёсам песняры.

Спрэчка ўзнікла нечакана:
— Мы ссівелі ўжо — і што ж?
Дзе адзнакі? Дзе пашана?
Нас не цэняць ані ў грош!..

Так успыхнуў бліскавічна
Сапраўды сівы паэт.
І ўсміхнуўся іранічна
У адказ яму сусед:

— Гэ! Каб сёння майстру слова
Велькі гонар заслужыць —
Перш за ўсё, як прадумова,
Трэба доўга-доўга жыць!

Трэба, дыхаючы роўна,
Без надрыву і згрызот,
Мець бычынае здароўе
Да васьмідзесяці год!..

— Славу дзеляць не па ўзросту,—
Запярэчыў трэці бард.—
Дапяеш да дзевяноста —
І не будзеш цэшкі варт!

Калі ты на лацкан з драпу
Хочаш знакі надзяваць —
Трэба ўмець, брат, храпу, храпу
Шырачэзна надзімаць!

Трэба [redacted] кожнае трыбуны
Трубным голасам грымець!
Хто ж нягучна шчыпле струны —
Тым рэгаліяў не мець!..

— Дык за што ж мы крыўду
                                        церпім? —
Узгарэўся першы зноў.—
Хто наш лёс пазначыў цернем,
Што — ні званняў, ні чыноў?..

І, нібы ў глухой надзеі
Хоць на нейкія дары,
Запытальна паглядзелі
На чацвёртага сябры.

І сказаў паэт паэтам,
Словы зводзячы ў радкі:
— Калі клопат ваш пра гэта —
Супакойцеся, браткі.

Будзе ўсё вам: званні, знакі,
Будзе дошка на сцяне...
Нават будуць выць сабакі
У бацькоўскай старане.

*1987*

2 Зак. 1441

## *Трагедыя паэта-эстрадніка*

За эстрадай — эстрада!
Канцэрт — на канцэрце!..
Прашумеў ты, браток,—
Як вятрыска ў трысці.
Што паэту
Звычайна даецца па смерці —
Ты ўсё выбраў
І выграб усё —
Пры жыцці.

Апантана,
Няўрымсна,
Аслепла,
Бяздумна
Ты ганяўся за славай,
Хапаў барышы...
Вось і старасць...
І што ж?
Зябка, пуста і сумна.
А ва ўласных тамах —
Ні радка для душы.

***1987***

## *Песенька шчаслівага дзеда*

Дайце, дайце аўтаручку
І паперы пачкаў пяць —
Напішу раман пра ўнучку,
Каб было вам што чытаць!

Ой, разумніца-малышка
Гэта ўнучачка мая!
Два гадкі ўсяго, а ў кніжках
Знае толк не менш, чым я!

Разгарнула раз даведнік,
Што ў партрэтах нашых спрэс,
І глядзіць — ну, быццам нейкі
Мае творчы інтарэс!

Тыцне пальчыкам, чарцяка,
І — зусім не па графе —
Атэстуе:
«Дзядзя — бяка!
Дзядзя — кака! Дзядзя — фэ!»

А як мой партрэт, прызнацца,
Там агледзела яна —
Закрычала:
«Дзедзя — цаца!
Дзедзя — ляля! Дзедзя — наш!»

А то раптам — на здзіўленне —
Валачэ ка мне мой том
І гукае:
«Дзедзя — геній!»
Ды так моцна — на ўвесь дом.

Я кажу: «Не смейся, шэльма,
І не здзекуйся, бо дам!»
Хоць ад радасці страшэннай
Аж увесь расплыўся там.

А яна — у захапленні —
Скача, бегае, крычыць:
«Дзедзя — геній! Дзедзя — геній!»
Божа, як яно гучыць!..

Я не падкі на цытаты,
Ды, напэўна ж, нездарма
Кажуць: вуснамі дзіцяці
Мовіць ісціна сама!

Дайце ж, дайце аўтаручку
І паперы добры стус:
Напішу раман пра ўнучку —
Скіну з сэрца творчы груз!

*1987*

# *Кантора*

*Сучасная ланцужковая казка*

Прыбягае воўк.
— Хто ў гэтай рукавічцы жыве?
— Я — Мышка-нарушка!
— Я — Жабка-квакушка!
— Я — Рак-тарабун!
— Я — Па бярэзнічку прыгун!
А ты хто?
— А я — З-за куста хапун.
Ці можна мне к вам?
— Лезь!

З беларускай ланцужковай казкі
«Дзедава рукавічка»

Жыў Патап — Вялікі хап,
Што схапіў — не вырвеш з лап!
Шмат хапаў, а — не хапала,
І стагнаў Патап, што мала!

Лёс панёс Патапа ўгору —
І Патап прыняў кантору —
Адчынілі акурат.
«Падбірай,— сказалі,— штат».

Сеў Патап, расклаў паперы —
Нехта грукаецца ў дзверы:
— Хто ў канторы? Назавіся!
— Я — Патап — Вялікі хап,
Што схаплю — не вырвеш з лап!
А ты хто такі з'явіўся?

— Я — Аўдзей — Скубі з людзей,
Каб жылося саладзей!
Ці няма пасады-месца?
— Месца ёсць. Заходзь, Аўдзей!

Праз хвіліну — дайце веры —
Нехта зноў грукоча ў дзверы:
— Хто ў канторы?
Хто каторы?
— Я — Патап — Вялікі хап!
— Я — Аўдзей — Скубі з людзей!
А ты хто?
— Я — Мікола — Круці кола,
Раскручу — дым-гром наўкола!
Ці няма ў канторы месца?
— Месца ёсць. Заходзь, Мікола!

Праз хвіліну — дайце веры —
Зноў грукоча нехта ў дзверы:
— Хто ў канторы?
Хто каторы?
— Я — Патап — Вялікі хап!
— Я — Аўдзей — Скубі з людзей!
— Я — Мікола — Круці кола!
А ты хто?
— Я — Мікіта — Шыта-крыта,
Вельмі спрытны ля карыта!
Ці няма ў канторы месца?
— Месца ёсць. Заходзь, Мікіта!

Неўзабаве — дайце веры —
Нехта зноў грукоча ў дзверы:
— Хто ў канторы?
Хто каторы?
— Я — Патап — Вялікі хап!
— Я — Аўдзей — Скубі з людзей!
— Я — Мікола — Круці кола!
— Я — Мікіта — Шыта-крыта!
А ты хто?
— Я — Параска — Калі ласка,
Без падмазкі — дрэнь каляска!

Ці няма ў канторы месца?
— Як няма! Заходзь, Параска!

«Ну,— сказаў сабе Патап,—
Тут таксама будзе хап!
Не вярблюд, не перастарка —
Чым жа мне не сакратарка?»

Неўзабаве — дайце веры —
Зноў пастукаліся ў дзверы:
— Хто ў канторы?
Хто каторы?
— Я — Патап — Вялікі хап!
— Я — Аўдзей — Скубі з людзей!
— Я — Мікола — Круці кола!
— Я — Мікіта — Шыта-крыта!
— Я — Параска — Калі ласка!
А ты хто?
— Я — Абросім — Колькі просім!
Два на два — бывае й восем!
Ці няма ў канторы месца?
— Як няма! Заходзь, Абросім!

«Гэта ж ён,— рашыў Патап,—
Збалансуе ўсякі хап!
Як з'явіліся касіры
І бухгалтары — спакон:
Два на два было чатыры.
Нам чатыры — не закон!»

Праз хвіліну — дайце веры —
Зноў пастукаў нехта ў дзверы:
— Хто ў канторы?
Хто каторы?
— Я — Патап — Вялікі хап!
— Я — Аўдзей — Скубі з людзей!

— Я — Мікола — Круці кола!
— Я — Мікіта — Шыта-крыта!
— Я — Параска — Калі ласка!
— Я — Абросім — Колькі просім!
А ты хто?
— Я — Міхалка-Папіхалка,
Не патрэбны кій і палка!
Ці не знойдзецца ў вас месца?
— Месца ёсць! Заходзь, Міхалка!

«Гэта ж скарб! — рашыў Патап.—
Во, як трэба мне такія,
Каб без палкі і без кія
Шчыравалі мне на хап!»

Неўзабаве — дайце веры —
Разам двое пруцца ў дзверы:
— Хто ў канторы?
Хто каторы!
— Я — Патап — Вялікі хап!
— Я — Аўдзей — Скубі з людзей!
— Я — Мікола — Круці кола!
— Я — Мікіта — Шыта-крыта!
— Я — Параска — Калі ласка!
— Я — Абросім — Колькі просім!
— Я — Міхалка-Папіхалка,
А вы хто такія?
— Мы?
Мачыляпа й Мачыморда —
Раз у месяц ходзім цвёрда!
Ці не знойдзецца ў вас месца?
Абязгрошалі абодва!

Тут Аўдзей шапнуў Патапу:
«Можа... толькі Мачыляпу?
Ці патрэбны нам дуэты?»

«Не бяда! Хай будзе й гэты!
Дый гучыць дуэтам горда:
Мачы-ляпа! Мачы-морда!..»

Неўзабаве — дайце веры —
Зноў пастукаў нехта ў дзверы:
— Хто ў канторы?
Хто каторы?
— Я — Патап — Вялікі хап!
— Я — Аўдзей — Скубі з людзей!
— Я — Мікола — Круці кола!
— Я — Мікіта — Шыта-крыта!
— Я — Параска — Калі ласка!
— Я — Абросім — Колькі просім!
— Я — Міхалка-Папіхалка,
— Мы — бязгрошыя абодва —
Мачыляпа й Мачыморда!
А ты хто?
— Я — Парфір — Ні ў пір ні ў вір,
Пераведзен на кефір.
Ці няма ў канторы месца?
— Пачакай, пастой, Парфір!..—
Як пачуў Патап — скрывіўся.
Першы раз ён усумніўся:
«А навошта нам Парфір,
Калі ён ні ў пір ні ў вір?»

Але тут своечасова
Мачыляпа ўставіў слова:
— Трэба месца даць Парфіру,
Каб было відаць усім,
Што бутэлькі з-пад кефіру
Мы здаём у магазін.

Ну, нарэшце — поўны штат,
І Патап бясконца рад:

Падабралася кагорта —
Каб і лепей, дык на чорта!
І пайшла гудзець кантора —
Безупынку, без затора!

Гэй, Патап — Вялікі хап,
Заграбай у дзесяць лап!

Гэй, Аўдзей, скубі з людзей,
Каб жылося саладзей!

Гэй, Мікола, круці кола,
Каб аж дым ды гром наўкола!

Гэй, Мікіта — Шыта-крыта,
Варушыся ля карыта!

Гэй!..
Чакайце: што за ліха?
Што так раптам стала ціха?

Нечакана — дайце веры —
Зноў загрукаў нехта ў дзверы:
Анямелі дружбакі.
— Хто грукоча? Хто такі?
— Я — Кандрат — Не будзеш рад,
І са мною мой атрад:
Харытон — Пільнуй закон!
А Язэп — За шкірку цэп!
А Юстын — На ўвесь аршын!
А Адась — Яшчэ й дадась!
Адчыняй без угавора —
Ліквідуецца кантора!

Ох і меў народ забаву,
Як паселі ўсе на лаву:

І Патап — Вялікі хап,
І Аўдзей — Скубі з людзей,
І Мікола — Круці кола,
І Мікіта — Шыта-крыта,
І Параска — Калі ласка,
І Абросім — Колькі просім,
І Міхалка-Папіхалка,
Мачыляпа й Мачыморда
І Парфір — Ні ў пір ні ў вір!
Быў усім адзін дубец —
Тут і казачцы канец!

*1970*

## *Вераб'ёвы госці*

*Паводле народнага*

Як паставіў Верабей
Побліз бору хатку,
Не лажыў ён да дзвярэй,
Як калісьці, кладку.
Ён цэментам упластаў
Цераз двор дарожку —
Выйшаў двор, як у Дразда,
Нават лепшы трошку.

У калючым дроце ўвесь
Плот паставіў шчыльны —
Паспрабуй сюды залезь
Які-небудзь шчыглік!
Быў увішны Верабей,
Як і кожны, зрэшты.
Ён і ў горадзе сабе
Меў гняздо ў застрэшшы.
Горад горадам, а тут —
Дача на выгодзе.

Маляўнічы, слаўны кут,
Проста рай, дый годзе!
Калі церам быў гатоў,
Стаў ён раду радзіць,
Як па звычаю дзядоў
Наваселле зладзіць?
Найцяжэй было рашыць
(Ледзь не ўзнікла сварка!),
Каго варта запрасіць,
А каго не варта?
Быў тут свой у Вераб'я
І падход і выклад.
«Што з таго, што клікну я

Зябліка, напрыклад?
Хай сабе ён і радня,
Разам рос калісьці,
А цяпер — хіба раўня?
Ды і што карысці?
Першым чынам Пугача
Запрашу, вядома.
І Сыча і Крумкача
Напамную дома.
Бо калі б не ласка іх,
Подпіс ды пячатка —
І паловы спраў маіх
Не сышло б так гладка!
Хто б задарам даў яшчэ —
Цэглу, шыфер, дошкі?
Пры маіх грашах — лягчэй
Выцягнуцца ўдоўжкі.
З іншых трэба да двара
Запрасіць Сароку:
Колькі ўсякага дабра
Валачэ здалёку!
А яшчэ — Цецерука
З пасекі Сасновай,
Каб была свая рука,
Мог закінуць слова.
Драч — не друг, але ж сусед,
А раз гэтак выйшла —
І яму залью як след,
Каб не драўся лішне.
Ну, і Ўдода — ліха з ім!
Тут ён не нашкодзіць.
Вып'е — ворагам маім
Пойдзе насмуродзіць».

У нядзелю Верабей,
Ледзь разднела, зранку,

Сустракаў, вітаў гасцей,
Стоячы на ганку.
Асабліва Пугачу
Кланяўся ён нізка.
І Сычу і Крумкачу
Моцна лапкі ціскаў.
Праз гадзіны паўтары
Гаманіла ўжо застолле.
Больш за ўсіх Крумкач стары
Набіваў закускай волле.
П'яны Сыч сядзеў, як сыч,
Ледзь цадзіў праз дзюбу сліну:
— Ты на «ты» мяне не тыч —
Я з табой не дзёўб мякіну!..
А жыхар балота Драч
Пугача давёў да злосці:
Намякнуў, што сам Пугач
Вераб'ёў не кліча ў госці.
Той нагою топнуў,
І крыламі лопнуў,
І дзюбаю люснуў,
І вачыма плюснуў!
«Што за гонар! Што за пыха!
Ах, якая птушка!» —
Вераб'іха мужу ціха
Прашаптала ў вушка.

Тут музыка як урэзаў —
Нежывы і то ўваскрэс бы!
Ды, на жаль, нікому з іх
Паскакаць не давялося.
Штосьці раптам адбылося.
Сціх музыка. Гоман сціх.
Ад Арла прыйшла павестка:
«Вераб'ю з'явіцца ў суд».
Гаспадыні стала кепска.

І Пугач пакінуў кут.
Вобзем бразнуўшы талерку,
Падступіў да Вераб'я:
— Дык ты што? Хацеў, каб я
Піў са злодзеем гарэлку?..
Як пачулі гэту фразу,
Грозны голас Пугача —
Выйшаў хмель увесь адразу
І з Сыча і з Крумкача.
Кожны, бразнуўшы талерку,
Падступаў да Вераб'я:
— Дык ты што? Хацеў, каб я
Піў са злодзеем гарэлку?..
Апусцела ўмомант хата.
Хоць тапіся — Вераб'ю.
— Ну, чакайце ж! Ваша свята
Я таксама сапсую!

*1966*

## *Казка без канца — для школы і для дому — пра Дзіму Ласунца і пра бабулю Домну*

Гэта казка пачалася,
Калі Дзіма Ласунец
Стаў вучыцца ў першым класе
І някепскі быў хлапец.
Вось тады з ім бабка Домна
Заключыла ўмову дома,
Што за кожную адзнаку —
За стараннасць і за плён —
Ад бабулі у падзяку
Будзе мець гасцінчык ён:
Пяць цукерак — за пяцёрку,
А чатыры — за чацвёрку,
Тры — за тройку,
Дзве за двойку
І цукерку — за адзінку,
Каб было салодка Дзімку!

Бабка ўнука шкадавала,
І любіла ўсёй душой,
І гасцінцы выдавала
Адпаведна ўмове той:
Пяць цукерак — за пяцёрку,
А чатыры — за чацвёрку,
Тры — за тройку,
Дзве — за двойку
І цукерку — за адзінку...
Ой, было салодка Дзімку!
Хоць па ўсіх прадметах часам
Невысокі меў ён бал,

Ды калі сплюсуе разам —
Дык цукерак — у адвал!

Еў іх Дзіма больш, як хлеба.
Ды аднойчы зразумеў,
Што марожанае лепей,
Чым якаясь карамель.
І бабуля ўміг, ад слова,
Згоду ўнучаку дала,
І абноўленая ўмова
Гэткі выгляд прыняла:
Пяць пламбіраў — за пяцёрку,
А чатыры — за чацвёрку,
Тры — за тройку,
Два — за двойку
І пламбірчык — за адзінку...
Ой, было салодка Дзімку!

Дзіма рос і неяк летам
Адкрыццё сабе зрабіў,
Што смактаць цыгарку — лепей,
Чым з разынкамі пламбір.
Хоць бабуля і суровай
Да курыльшчыкаў была,
Але ўсё-такі умова
Іншы выгляд прыняла:
Пяць цыгарак — за пяцёрку,
А чатыры — за чацвёрку,
Тры — за тройку,
Дзве — за двойку
І цыгарку — за адзінку...
Ажно блага стала Дзімку!
Хоць па ўсіх прадметах часам
Невысокі меў ён бал,
Ды калі сплюсуе разам —
Пыхкаў дымам, як труба!

А далей развой быў шпаркі:
Не здзівіла навіна,
Калі Дзіма ад цыгаркі
Дасмактаўся да віна.
— Ну, сказаў,— баяцца до мне —
Старшакласнік я даўно.
Нашу ўмову, баба Домна,
Пераключым на віно:
Пяць бутэлек — за пяцёрку,
А чатыры — за чацвёрку,
Тры — за тройку,
Дзве — за двойку
І бутэльку — за адзінку...
Паглядзіш тады на Дзімку!

Тут я кончыць паспрабую
Гэту казку без канца —
Пра ласкавую бабулю
І пра Дзіму Ласунца.
А чаму ж пра бацьку, матку
Не сказаў хоць пару слоў?
Прачытай пільней спачатку:
Пра бацькоў —
Паміж радкоў.

*1969*

## *Лахтак,*
### *або*
## *Неспадзяваная сустрэча са знаёмым у далёкаўсходнім краязнаўчым музеі*

Ён ляжыць,
Як на беразе,
Выпаўзшы з вод акіянскіх,—
Сіва-бурая туша
На тоўстых кароткіх ластах.
І тлумачыць старанна жанчына,
Махаючы ўказкай:
— Гэта заяц марскі,
Або йначай, папросту —
Лахтак.

Ён з сямейства цюленяў —
Жыве і ў вадзе
І на сушы.
Паглядзіце, які здаравень!
Уяўляеце вы,
Колькі тлушчу пад скурай
У гэтай агромністай тушы,—
Нават куля дае рыкашэт
Ад яго галавы!

Ну й лахтак!
Гэта ж трэба:
Набыць засцярогу такую!..
Я ж гляджу на яго
І ніяк не магу прыгадаць:
Дзе я бачыў раней

Гэту морду —
Тупую-тупую,
На якой
Ані следу ніякіх турбот
Не відаць.

Што за ліха, лахтак?
Ты мяне
Не на жарт азадачыў.
Можа, я захварэў,
Падчапіўшы якой эпідэміі?
Божа мой!
Прыгадаў:
Гэта ж я цябе некалі бачыў
Між вучоных мужоў...
У адной акадэміі!

Дзякуй богу, лахтак,
Што ты цяпер у музеі.

*1962*

## *Жук-турыст*

*Байка*

Неяк летам да мядзведзя
Прыбылі турысты:
Край праслаўлены агледзець
Трэба асабіста.

Лось прыйшоў, бабёр і заяц,
Вожык і вавёрка,
І, нарэшце, прыпаўзае
Чорны жук разоркай.

Гнаявік, што рые ямкі
На быдлячых сцежках,
Пра якога знае ўсякі
Прымаўкі-насмешкі.

— Што ж, на свеце ўсё бывае! —
Гаспадар зазначыў.
— Жук дык жук. Бяда такая!
Хай і жук пабачыць!..

Аб гасціннасці мядзведзя
Скрозь даўно вядома:
Хто ні прыйдзе, ні прыедзе —
Можа быць як дома.

Вось, паважны і ўрачысты,
Раніцою роснай
Гаспадар вядзе турыстаў
Па зямлі дзівоснай.

Дзе дубровы векавыя
Цэдзяць пошум лісця,

Дзе крыніцы б'юць жывыя,
Дзе кусты спляліся.

— Што за водар! Што за зелень!
Колькі прыгажосці! —
У парыве захаплення
Выгукаюць госці.

Толькі жук адзін нічога
Заўважаць не хоча.
Ды пільней усё пад ногі
Упірае вочы.

Як прайшлі па ўсіх кірунках,
Гаспадар гасцінны
Вынес безліч падарункаў
Госцям на ўспаміны.

Шануючы звычай добры,
Дзякуючы шчыра,
Накладаюць госці ў торбы
Розных сувеніраў.

Толькі жук адзін нічога
Выбіраць не хоча
Ды пільней усё пад ногі
Упірае вочы.

А як рушыць у дарогу
Парашылі госці:
— Жук прапаў! — забіў трывогу
Нечакана хтосьці.

— Гнаявік згубіўся недзе!
Во, калі няшчасце!
Неспакой узяў мядзведзя:
Дзе б ён мог прапасці?

Пушчу ўсю аблазіў чыста,
Апытаў суседзяў —
Не знайшоў нідзе турыста
І слядоў не ўгледзеў.

На задворку ж, за сцяною,
Атаропеў раптам:
Жук стаіць ля ямы гною
З фотаапаратам!

Паглядзеў мядзведзь з агідай
На такі малюнак:
— І знайшоў жа краявіды!
Цьфу, брыдота! — плюнуў.

Жук і тут застаўся жукам.
Як не мог я сцяміць!..
Значыць, вось што ён вышукваў,
Каб узяць на памяць!

Хай жа й пяткі тут падмажа
Ды паўзе дадому.
А што ён пра нас раскажа,
Гэта нам вядома.

На аршын уласны змерыць,
Скажа: гною яма.
Толькі хто жуку паверыць? —
Хіба жук таксама?!

*1957*

# «Перабудоўшчыкі»

— Пачнём з сябе!
Пачнём з сябе! —
Вось лозунг наш
У барацьбе —
За новы курс,
За пералом
І за трыумф
Дабра над злом!
— З сябе?
— З сябе!
І толькі так!
— А што — цябе
Грызе чарвяк?
— Чаму — мяне,
А не цябе?
— Дык ты ж крычыш:
«Пачнём з сябе!»
Вось і пачні!
— З каго? З мяне?
З мяне???..
Ты ў розуме ці не?
— Тады — з каго?
Тады — з яго!
— З каго — з яго?
— Ды вунь з таго!
— З таго? Ты дурань
Ці вар'ят?
Хіба не знаеш,
Чый ён сват?
— Дык а з каго?
— Ах божа мой!
Я кінуў кліч
Перад гурмой!

Няўжо не ясна?
— Ясна, брат!..
— Тады крычы
Са мной у лад:
«Каб поспех мець
У барацьбе —
Пачнём з сябе!
Пачнём з сябе!»
Хай людзі чуюць,
Што крычым,
А нехта
Зробіць і пачын.

*1986*

## *Балбешка*

Ацiраўся ў трэсце
Пустабай Балбешка.
Не хацеў, хоць рэжце,
Быць «звычайнай пешкай».

А хацеў лiчыцца
Ён тузом у трэсце.
Як жа падлаўчыцца —
На пасаду ўзлезцi?

Грымнуў раз Балбешка
На ўсю залу клiчам:
«Павялiчым рэзка!
Рэзка павялiчым!..»

Гэткую адвагу
Не сустрэнеш часта,—
Тут жа пад увагу
Узяло начальства.

Абагрэла ўсмешкай,
Як герою, рада:
«Вось табе, Балбешка,
Добрая пасада!»

I пайшло па трэсце
Рэхам навальнiчным:
«Павялiчым рэзка!
Рэзка павялiчым!..»

Год мiнуў — нi з месца.
I другi мiнае.
«Э-э-э,— сказалi ў трэсце,—
Тут ён не шманае.

Хай паедзе лепей
У калгас адсталы:
Ён па маслу й хлебе,
Кажуць, спец бывалы».

Зноў Балбешка ў крэсла
Сеў з задзёртым лычам:
«Павялічым рэзка!
Рэзка павялічым!..»

Год мінуў няспешна,
І другі мінае.
«Э-э-э, і тут Балбешка
Зноў ані шманае!»

У раён прыбудзе,
Што ні справаздача —
Кулакамі ў грудзі
Лупіць, як не плача:

«Працавалі кепска,
Ды памылкі ўлічым:
Павялічым рэзка!
Рэзка павялічым!..»

Старшыня быў хвацкі:
За рубель калгасны
Вырас дом, як цацка,
І — «Масквіч» уласны.

За высокім плотам —
Двор прасторны вельмі,
А ў двары прыплоду —
Як на добрай ферме.

Цешыцца Балбешка,
Пагалоўе лічыць:

«Павялічыў рэзка!
Рэзка павялічыў!..»

І тады нарэшце
«Прэч! — сказалі людзі.—
Без цябе, Балбешка,
Болей толку будзе!

Не трапі дарэмна
Языком, як млам.
Трэплеш ты нядрэнна,
Ды карысці мала».

«Менш пустога трэску!» —
Кліч наш ваяўнічы.
Трэск паменшым рэзка —
Поспех павялічым.

*1964*

## *Чалавечак*

Чалавечак
Быў братам сабе аднаму.
Нехта ж
Недзе
Ў прыгожыя словы паверыў,—
І пайшоў ён угору,
І доўга яму
Не паводле заслуг
Адчыняліся дзверы.

На трыбуне, бывала,
Як рэпу грызе:
Агітуе другіх
За Савецкую ўладу.
Сам жа ўпотайкі
Хабар дадому вязе —
За пячаць
І за подпіс начальніцкі
Плату.

З году ў год,
Дабрадзеям удзячны спаўна,
Вандраваў ён
З адной установы ў другую.
З году ў год —
На якога, спытаць бы, ражна? —
Ашчаджалі
Асобу яго дарагую.

Пяць разоў «пагарэў»,
Сем разоў «разваліў»,
Жонак меў —
Колькі ёсць у ваколіцы вёсак:

Як не ўжыўся з адною —
Судом развялі,
Як не ўжыўся [redacted] другой —
Самасудам развёўся.

Ну, а піць — толькі дай,
Кожнай чарцы быў рад,
І паўчарцы быў рад ён
І нават напарстку.
За паўлітра ж
Пакінуў пячатку ў заклад.
І на гэтым папаўся,
Як тхор той у пастку...

Што ж, вы думалі б,
Робіць ён колькі ўжо год?
Пі-іша!
Піша заявы
У вобласць, у цэнтр
І на кожнага з тых,
Хто «пакрыўдзіў» яго,
Вылівае
Памыяў агромністы цэбар.

Напісаў ён не менш,
Чым пісьменнік які.
Ну, а яд яго «твораў»
Ты змераеш хіба?
Каб завёз
Ды зваліў іх у рэчку,
Браткі,—
Там адразу падохлі б
І ракі і рыба!

Ён і мне
Не дарue цяпер.

А таму,
Калі хто прачытае
Ў ягонай паперцы,
Што я цётку зарэзаў,—
Не верце яму!
І што быў канакрадам,—
Таксама не верце!

*1959*

## *Пісьмо ў рэдакцыю*

Паважаны рэдактар!
Я вельмі Вас, вельмі прашу:
Надрукуйце ў газеце
Усё, што я Вам напішу.
Я лічу, што патрэбна
Аб гэтым народу сказаць,
Каб другія, пры выпадку,
Прыклад маглі з мяне ўзяць.

Пазаўчора ішоў я дамоў
А паўночнай пары.
Аж гляджу: на вяроўцы
Сарочка вісіць у двары.
(Гэта ў нашым пад'ездзе
Такая суседка жыве —
Забываецца вечна.
Зусім без цара ў галаве.)
Паглядзеў я, памацаў —
Сарочка... Дабрэнная рэч!
І яшчэ раз памацаў...
А цемра — густая, хоць рэж!
Разумееце?
Ноч.
Ні душы.
За дванаццаць гадзін.
А ў двары — толькі я ды сарочка.
Адзін на адзін.
Разумееце?
Хіба стрымаўся б
Хто іншы?
А я?
Хоць і мог, а не ўзяў.

Бо няможна.
Бо рэч — не мая!
Або вось Вам здарэнне:
Знаёмы надоечы быў —
Гасцяваў у мяне —
І пальчаткі на ўслоне забыў,
Разумееце?
Толькі праз дзень
Заявіўся ка мне.
— У цябе я,— пытае,—
Пальчаткі пакінуў
Ці не?
Разумееце?
Трасцу б хто іншы
Прызнаўся!
А я?
Я аддаў.
Не прысвоіў.
Бо нельга.
Бо рэч — не мая!
Гэта чыстая праўда,
Ні капелькі Вам не хлушу.
Надрукуйце ж мой ліст,
Калі ласка,
Я вельмі прашу.
І дабаўце ў канцы,—
Хай чытаюць,
Хай знае ўвесь край,—
Што такога, як я,
У камунізм хоць сёння
Пускай!

*1962*

## *Футбол,*
### *або*
## *Як я стаў балельшчыкам*

Раней футбол мяне зусім
Не вабіў, не цікавіў,
І калі хто казаў аб ім —
Як ад чумы ўцякаў я.

Я стадыён за паўвярсты
Стараўся абыходзіць.
Лічыў, што гэта — спорт пусты,
Грамадству толькі шкодзіць.

Ды нават блізкія сябры,
Калегі па рабоце,
Мне гаварылі: — Ты, стары,
Адстаў на паўстагоддзя.

Мяне ж злавала кожны раз —
І чым далей, тым болей,—
Чаму ў канторы бавяць час
Размовай аб футболе?

Два дні да матча, два — пасля
Не робяць анічога!
І ўсё на воку Кісяля —
Дырэктара самога!

Тады рашыў я даць ім бой
І крыкнуў раз: — Калегі!
Пагаварылі б вы, дальбог,
Пра ўзлёт у космас лепей.

Бо языком мячы ганяць
І асталоп увішны!

Тут і далі сябры мне знаць,
Што я хапіў залішне.

— І шэф,— пытаюць,— асталоп?
Скажы: — І шэф таксама?..
А ў гэты дзень у нас было
Найлепшае «Дынама».

І недзе так ля трох гадзін,
Згарнуўшы справы спешна,
Сябры пабеглі як адзін,
А шэф Кісель — дык першы!

Назаўтра я ажно абмяк,
Калі на мой «Дзень добры!»
Кісель адрэзаў: — Ну, дык як?
На што футбол наш здольны?

А мне і мову адняло,
Кроў стыне ў кожнай жылцы:
«Данеслі ўсё-такі назло,
От гады — саслужыўцы!»

Тут, чую, буры не мінуць,
Але хлусіць не ўмею —
І прызнаюся, што нічуць
Футболам не балею.

Кісель глядзіць — няйначай вол,
Даўбнёй між рог агрэты:
— Што? Ты не ходзіш на футбол?
І ў штаце у мяне ты?

І так ён зекры пакуляў,
Што стала ўсё мне ясна:
Пішы заяву сам, маўляў,
Па добрай волі ўласнай...

Тры дні я думаў, як мне быць,
І кляў сваю нікчэмнасць,
І парашыў яму зрабіць
Маленькую прыемнасць.

Заходжу зранку ў кабінет
І прапаную проста:
— Мой шэф, я ўзяў для вас білет —
Сягоння йграе Ойстрах!

Аж перасмыкнула яго —
Затросся, нібы хворы:
— Замест каго? Замест каго?
У нас ці ў «Пахтакоры»?

— Ды не,— кажу,— замест сябе,
Замест сябе самога...
Кісель набычыўся, сапе:
— Ты лжэш! Няма такога!

— Ён не ў камандзе...
Ён — скрыпач,—
Спрабую растлумачыць.
— Які скрыпач! Сягоння матч!
Я ўжо сяджу на матчы!..

Я змоўк і рукі апусціў,
Як бы хто зброю выбіў,
І ўпершыню ў сваім жыцці
Без сіл з канторы выбег.

Ад крыўды ўзрушаны яшчэ,
З калегам стрэўся ў браме.
Гляджу: кагосьці валачэ
У фарбаванай раме.

— Ці змагара? Ці песняра? —
Пытаюся адразу.
— Дзівак! Партрэт варатара!
З майстэрні! Па заказу!

І каб мяне зусім дабіць —
Адкрыў сакрэт пры гэтым:
— На дэманстрацыі хадзіць
Хачу з яго партрэтам.

Мне пеклам здаўся белы свет,
Ды не было ўжо дзівам,
Што дні праз тры я ўзяў білет
На матч з «Лакаматывам».

О незабыўны першы матч!
Прашу суседа справа:
— Ты, калі ласка, мне тлумач,
Бо я не знаю правіл.

Ён ухмыляецца ў адказ
І мне тлумачыць міла:
— Як толькі стануць цiснуць нас —
Крычы: «Суддзю — на мыла!»

О незабыўны першы гол,
Увінчаны ў дзевятку!
Ад крыку-ляманту наўкол
Я анямеў спачатку.

Якісь таўсцель, што за спіной
Ад шчасця роў па-зверску,
Палез чаломкацца са мной
І ашчарэпіў зверху.

Як падвярнуў мне галаву,
Як цісканyў штосілы —

Я зоры ўбачыў наяву
У майскім небе сінім.

Калі б сусед не ўратаваў,
Не адцягнуў за рукі —
Дык і душу б я там аддаў
Пасля нядоўгай мукі.

І, пэўна б, сёння абеліск
Стаяў ускрай дарогі:
«Тут спіць балельшчык Янка Ліс.
Памёр ад перамогі».

Як абвясціў суддзя ў свісток
Пра выйгрыш паядынку —
Сусед сказаў: — Давай, браток,
Расціснем палавінку?

Хоць не піток я, а ўстаяць
Не здолеў перад просьбай:
Прыйшлося з ім пайсці і ўзяць
Бутэльку «Рускай» простай.

Дык ноччу сон кашмарны сніў
І кідаўся ў пасцелі:
Спярша вароты бараніў,
А ў іх мячы ляцелі.

Пасля ў кантору у сваю
Зайшоў, але — о божа! —
Зусім калег не пазнаю,
Дый хто пазнаць іх можа?

Замест галоў — хоць гвалт крычы —
Кругом па-над сталамі
Тырчаць футбольныя мячы
З прышытымі вушамі!

І асабліва ёмкі мяч,
Дзе шэф сядзеў у крэсле:
Здаецца, так і пойдзе ўскач —
Адно нагою трэсні!

Я закрычаў — і сон прапаў,
Аддаўся ў скронях болем.
Астатак ночы я не спаў
І думаў аб футболе.

А раніцой на стадыён
Ляцеў, як ашалеўшы:
— Прашу білет! На ўвесь сезон!
У цэнтры! Самы лепшы!

*1964*

# *Кузьма*

Гісторыя звычайная,
ды вельмі павучальная.

А быў Кузьма дзяцюк, што дуб,—
Высокі, дужы, зграбны,
Як шула — плечы, хмарай — чуб
І бас, як звон, прывабны.

А вось не выпала Кузьму
Заслужанага шчасця:
Гарчэй зрабілася яму
За горкі яблык Насця.

Як уступалі ў шлюб яны,
Дык думаў: «Божа мілы!
Кахання хопіць да труны
І ласкі да магілы!»

Аж не прайшло і трох гадоў —
Не стала згоды ў пары:
Як водар з квецені садоў,
Развеяліся чары.

«Што з Насцяй сталася маёй?
Зусім не тая Насця:
І ўсмешка знікла, прад якой
Свет расчыняўся насцеж,

І той паходкі ўжо няма,
І ў таліі, як ступа...»
І замаркоціўся Кузьма:
З эмоцыямі скупа!

Любоўны чад прайшоў, як сон,
Усё будзённым стала.
І вось аднойчы гыркнуў ён,
Пасля — яе прарвала.

А тут прыбытак, бач, займеў —
Сушы, Кузьма, пялёнкі!
Якраз тады, як зразумеў,
Што больш не любіць жонкі.

А на праспекце — божа мой! —
Пад вечар асабліва —
Дзяўчаты сноўдаюць гурмой,
Стрыгуць вачмі гулліва.

І ў кожнай станік трапяткі
Аж просіцца з сукенкі,
І ў кожнай, быццам качанкі,
Кругляяцца каленкі.

Такія спрытненькія ўсе —
Нібы казулі ў лесе.
Зірнеш — аж трасца затрасе
І чорт у рабро лезе.

І азарыла тут Кузьму
Шчаслівая здагадка:
«От калі гэткую вазьму —
Усё ў нас пойдзе гладка!

Яна ж і к сэрцу прыхіне,
І зразумее тонка,
І будзе ў доме у мяне
Анёлак, а не жонка!»

Зрабіўшы вывад, чорт вазьмі,
Ён выцадзіў паўлітра
І беднай Насці пад вачмі
Размаляваў няхітра.

Ну, а грамадскасць тут як тут —
І майстар маляўніцтва
На таварыскі трапіў суд
У домакіраўніцтва.

Сабраўся гурт бабуль сівых —
Усім ім Насці шкода,
І прафсаюзны стаж ва ўсіх
З трынаццатага года.

А для фасону — прывялі
І пасадзілі ў цэнтры
Спецыяліста па сям'і,
Вучонага дацэнта.

І сталі суддзі па чарзе
Пытаць Кузьму ды Насцю,
Што сэрцы іхнія грызе,
Што замінае шчасцю.

Кузьма не каяўся ані.
Як чалавек з дыпломам
На суддзяў глянуў з вышыні
І заявіў з апломбам:

«Дык вось што думаю сам я,
Шаноўныя прамоўцы:
Якая можа быць сям'я,
Калі няма эмоцый?

А сына — што ж, магу забраць —
Бацькі не забядуюць:
Мяне сумелі ўзгадаваць
І ўнука падгадуюць».

Тут Насця ўстала у слязах,
Сказала: «Божа моцны!
Калі іх мала — дзе ж узяць,
Адкуль мне ўзяць эмоцый?

Пакуль з работы прыбяжыш,
Пакуль дзіця дагледзіш
Ды ў магазіне пастаіш —
Да ложка дойдзеш ледзьве...»

І Насця зноў да мокрых шчок
Хусцінінку паднесла.
Тут гладкі, тоўсты, як пучок,
Дацэнт падняўся з крэсла.

«Калі да гэтай справы мы
Падыдзем прынцыпова,
Дык у канцэпцыі Кузьмы
Заганная аснова!

Што цэментуе ў нас сям'ю?
Адзінства спраў і мэты.
Я ж дысертацыю сваю
Абараніў на гэтым!

Калі ў эмоцыях няма
Ідэйнага аспекта...»
Суду насуперак, Кузьма
Анёлка ўзяў з праспекта.

Як першы раз аблабызаў,
Яму сказала жонка:
«Бяжы, Кузёмка, на базар,
Купі качан, Кузёмка!»

А як з базару ён прыбег —
Анёлак дорыць буську:
«Цяпер, Кузьма, вары абед,
Ды каб быў смачны, Кузька!»

Пасля: «Падай, Кузьма, на стол!»
Пасля: «Памый пасуду!
Жывей, Кузьма, жывей, сакол,
А то — любіць не буду!»

Памыў пасуду — самы б раз
На ложак заваліцца,
А тут: «Вазьмі, Кузёмка, прас —
Адгладзь маю спадніцу!

Цяпер падлогуператры
Анучкаю і вадою,
Бо прыйдуць вечарам сябры —
Патанцаваць са мною...»

І так штодзень, і так штодзень:
«Жывей, жывей, мой Кузя!..»
Кузьма асунуўся, схудзеў,
Сцялося сэрца ў вузел.

Згарбеў і крукам выпер нос,
Запалі вочы ў ямы,
І брыдкім мохам твар аброс —
Кузьма ўжо не той самы!

Зусім абвяла ў жылах кроў!
Няма ранейшай моцы!
Затое ў жончыных сяброў —
Такі напал эмоцый!

Як стануць з ёю танцаваць
Ды міргаць ласым вокам —
Кузьму ну проста не стрываць:
Ад крыўды вые воўкам.

Не знаю, колькі выць Кузьму.
Адно тут вам скажу я,
Што Насця сніцца ўжо яму
Царэўнай-прыгажуняй.

*1969—1975*

## *Як я рашыў набыць машыну*

Аднойчы з вёскі я вяртаўся.
Спяшаўся: дома клопат меў.
Бег да шашы — ажно пластаўся,
А на аўтобус — не паспеў.

Чарговы ж рэйс — праз дзве гадзіны,
Ну, што ж, калі ўжо гэткі лёс —
То выхад можа быць адзіны:
Галасаваць, каб хто падвёз.

А дзень святочны быў, нядзеля,—
Рабочы транспарт не ў ходу.
Уся на ўласнікаў надзея —
На чуласць іх і дабрату.

Хоць я ні разу, дзякуй богу,
Не ехаў з імі на вяку,
Але, зірнуўшы на дарогу,
Аптымістычна ўзняў руку.

Машыны жыхаюць раз-пораз:
Адна мільгне — другая прэ.
Ну, значыць, скора, скора, скора
Мяне хто-небудзь падбярэ.

Аднак жа нешта даўгавата
Я на абочыне тырчу.
«Вазьмі! Таварыша і брата!» —
Маўкліва кожнаму крычу.

Руку навыцяжку трымаю:
Самлее правая ўгары —

І тут жа левую ўздымаю:
«Няўжо не бачыце, сябры?»

Хвілін мо трыццаць так прыблізна
Я ўсё храбрыўся, а пасля —
Слупок ружовы аптымізму
Апаў у сэрцы да нуля.

Напэўна, цуду не адбыцца.
Цяпер уласнік «памудрэў».
І што прыдумаць? Прытварыцца,
Што раптам цяжка захварэў?

А што?.. Давай! Я сеў на камень,
І ногі пад сябе падгроб,
І абхапіў жывот рукамі,
І вочы выкаціў на лоб.

Я так праўдзіва корчыў міну —
Як Чарлі Чаплін у кіно.
Але ніхто сваю машыну
Не прыпыніў усё адно.

Тут злосць мяне ўжо разабрала.
«Ну, што ж,— затрос я кулаком,—
Калі маіх хвароб вам мала —
Я прытваруся мерцвяком!..»

Я лёг на ўзбочыне дарогі,
Паклаў партфель ля галавы,
Раскінуў рукі, выцяг ногі
І знерухомеў, «нежывы».

І што вы думаеце? Раптам
Заскрыгаталі тармазы:
Спыніўся побач нейкі транспарт,
А ў ім — жывыя галасы:

— Відаць, нядобра чалавеку,
Давай, Анэта, паглядзім.
— Ты што надумаў? Што, ты — лекар?
Якое рады мы дадзім?

Дый хворы тут ляжаць не будзе.
П'янчуга нейкі, вінадуй:
Яшчэ аблюмае, спаскудзіць
Абшыўку новую... Газуй!

Машына чмыхнула і знікла.
А я ўздыхнуў: «Бяда, бяда!
На п'яніц публіка прывыкла
Глядзець... П'янчугі не шкада!»

І зноў мне сумна стала вельмі:
Жыццё падносіць горкі ўрок.
Ды тут я ўспомніў, што ў партфелі
Чырвоных вішань ёсць кулёк!

Я расчыніў бавул дарожны
І — пыю вішнямі нацёр!
«Цяпер адразу ўбачыць кожны:
Замах адбыўся на жыццё!»

А каб яшчэ праўдзівым болей
Майго забойства здаўся факт —
Сабраўшы ўвесь астатак волі,
Я ссунуў ногі на асфальт!

І што вы думаеце? Тут жа
Заскрыгаталі тармазы,
І новай пары — жонкі й мужа —
Пачуў паблізу галасы:

— Глядзі, зарэзалі няйначай.
А мо жывы? Пайду зірну.
— Ты што? Вар'ят? Не дакранайся!
Бо на цябе ўскладуць віну!

— Дзівачка! Хто гэта паверыць,
Што я так страшна саграшыў?
— Павераць! Помніш, як аберуч
Ты ледзь мяне не задушыў?

— Не ўспамінай! — раўнуў мужчына.—
Не ўспамінай, табе кажу!
Бо зараз выкіну з машыны
І побач з гэтым улажу!..

Ад страху тут я ледзь не войкнуў,
Але і ў роспачы-бядзе
Не сцерпеў — лыпнуў краем вока:
Каго ж ён побач пакладзе?

Магчыма, я не прагадаю,
Калі ён выкіне яе?
А можа, нават што прыдбаю —
За ўсе пакуты за свае?

Але надзея тут жа згасла:
«Вар'ят» націснуў на старцёр,
«Масквіч» дыхнуў смярдзючым газам,
Рвануўся з месца і папёр.

І зноў, нікому не патрэбны,
Ляжу на ўзбочыне шашы.
А крыўда-боль, нібыта скрэблам,
Скрабе-дзярэ па дне душы.

І, можа б, крыўда век не ўціхла,
Але ў крытычны самы час —
Пачуўся рокат матацыкла
І загрымеў сярдзіты бас:

— Ты што надумаў, чалавеча?
Чаго разлёгся на шашы?
Калі не маеш цёплай печы —
Мы знойдзем нары па душы!

Ну, падымайся, калі ласка,
А то і дойдзеш тут адзін.
Якраз парожняя каляска —
Паедзем нары паглядзім!..

Не ўпадабаўшы тон яхідны,
Адплюшчыў вочы — вось дык жарт:
Над галавой — як д'ябал, хітры —
Стаіць міліцыі сяржант!

— Сядайце,— кажа мне,— ў карэце,
І папрашу, грамадзянін:
Як будзем ехаць — не дурэйце:
Я — мнагадзетны сем'янін...

Хоць матацыкл — не аўтобус,
Але як сеў — скажу я вам,—
Дык сам сабой падняўся тонус
І цвёрды вывад склаўся сам:

Няхай хоць пальцам пора хтосьці —
Так болей жыць я не хачу!
Праз год і я да цешчы ў госці
На ўласных колах прыкачу!

*1972*

# «Аматар» прыроды

У грамадзе наўкруг стала —
Пры чарчыне і нагоды —
Размова, помню я, зайшла
Аб харастве прыроды.

З азартам кожны слова браў,
Каб не адстаць ад іншых,
Але найболей горла драў
Дзябёлы дзядзька ўвішны.

Крычаў: «Прырода нам дае
Дары і насалоду!»
Крычаў: «Душа мая пяе,
Як вырвуся ў прыроду!..»

Я слухаў дзядзьку і глядзеў
Амаль не ў захапленні:
«Каб нам ды больш такіх людзей —
Свядомых і сумленных!»

Аж на душы мне стала лепш,
І я ў настроі светлым
Назаўтра ж выбраўся у лес —
Надыхацца паветрам.

Іду паўз лагер у цішы
І цераз той пагорак,
Дзе ў час канікул малышы
Частуюць з рук вавёрак.

І раптам чую побач: бах! —
Аж гул пайшоў ад стрэла.
І бачу: долу па суках
Ляціць вавёрка з дрэва.

А воддаль бліскае ствалом
Той самы дзядзька ўвішны,
Што аб прыродзе за сталом
Крычаў грамчэй за іншых.

— Ты—грэшнік, грэшнік ты!—кажу.
А ён — за дубальтоўку:
— Матай — бо зараз асвяжу,
Як гэтую вавёрку!..

Праз дзень я ў вёсачку адну
Шкандыбаў па дарозе.
На ўзлеску, думаў, адпачну —
Пры векавой бярозе.

Бяроза там — сама краса:
Царыца над узлессем!
І ўся ў птушыных галасах,
У пераз вонах песень!

Іду, гляджу — а дзе ж яна,
Бяроза векавая?
Ляжыць на доле, як струна —
Без песень, нежывая.

А побач ходзіць з тапаром
Той самы дзядзька ўвішны,
Што аб прыродзе за сталом
Крычаў грамчэй за іншых.

Ужо й сукі абцерабіў
І верх адсек начыста...
Крычу: — Дзікун! Ты што зрабіў?
Ты ж учыніў злачынства!

А ён: — Я сведак не люблю,
Як вырвуся ў прыроду.

Матай! А то — абцераблю,
Як гэтую калоду!..

Пазней, праз месяц праз які,
Узброіўшыся вудай,
Ішоў я нейк уздоўж ракі —
З нажывай і з пасудай.

Гляджу: машына ля вады,
А ў кузаве — дынама,
І ад дынама — правады
У вір збягаюць прама.

І б'юць жывое ў тым віры —
Без промаху, без хібы!
І кружаць, брушкам дагары,
У мёртвым танцы рыбы.

А падбірае іх сачком
Той самы дзядзька ўвішны,
Што аб прыродзе за сталом
Крычаў грамчэй за іншых.

— Ты варвар, варвар! — я сказаў.
А дзядзька лыпнуў вокам:
— Матай! А то, як ментуза,
Цябе прашыю токам!..

Вось так, шаноўныя мае:
Калі хто громка трубіць
І кулакамі ў грудзі б'е,
Што ён прыроду любіць,—

Не млейце ў радасці ад слоў,
Папробуйце праверыць:
Ці не крычыць у ім любоў
Глушыць, страляць, сякерыць?

*1974*

## *Як я ўцягнуўся*

***Споведзь няшчаснага,***
***які пачаў з кропелькі***

Пачатак мне і ўспомніць цяжка,
Але я, пэўна, не зманю,
Калі скажу: на вочы пляшка
Папала рана ўпершыню.

Яшчэ гутаўся я ў калысцы,
А тата, помню, на абрус
Стаўляў «бусла», качан у місцы
І клаў здаровы сала брус.

Пасля за стол сядалі людзі,
Звычайна — татавы сябры,
І гаманілі пры пасудзе,
Гулі да позняе пары.

Калі ж іх тата спаць праводзіў,
Я браў бутэлькі з-пад стала
І ў кожнай кропельку знаходзіў —
У кожнай кропелька была!

Дык паспытаць і мне цікава!
І я — бутэльку старчаком
І тую кроплю, што сцякала,
Лавіў няспрытна языком.

Так пачатковую навуку
Прайшоў па кропельцы няўзнак
І ўжо запомніў гэту штуку
На пах, на колер і на смак.

Пазней пашырыў значна веды
У гэтай самай галіне,
Калі на лета ўсё да дзеда
Аднойчы сплавілі мяне.

І дзед сказаў мне — не наўмысна,
А каб унука чым заняць:
— Я зараз гару буду ціснуць,
А ты мне будзеш памагаць.

Каб не папёрла брагу, хлопча,
Ці не ўзарвала, бог баронь! —
Як толькі ў трубцы забалбоча —
Адсоўвай хуценька агонь!..

Чыгун патроху награваўся,
І вось нарэшце даняло:
Струменьчык пары паказаўся
І ў слоік капаць пачало.

Шпарчэй, шпарчэй за капкай капка,
Пасля — цурочак забурліў...
Узяў дзед слоік далікатна
І ў шклянку змесціва адліў.

Нюхнуў, прыцмокнуў, вокам лыпнуў:
— Ну, ці ўдалася смярдзюха?
Паправіў вусы, спрытна лыкнуў
І гучна выдыхнуў: — Ху-ха!

На, паспрабуй... Не бойся, выпі!
Ну, як было мне там не ўзяць?
Які давер і гонар выпаў —
Нароўні з дзедам пробу зняць!

І на другое, помню, лета
Здымаў я пробу з першака,
І так спанатрыў дзела гэта —
Аж дзедаў бутальчык шукаў.

Калі ж падрос я і на працу
Уладкаваўся ў рэмбудтрэст —
Са сліваносымі адразу
Знайшоў агульны інтарэс.

У першы дзень фінал быў гэткі:
Падходзіць Саўка і крычыць:
— Віншуй, браток: купіў шкарпэткі!
Прашу са мною замачыць!

Назаўтра, скорчыўшы грымасу,
Сцяпан гукнуў: — Хадзем, браткі!
Каб не парваліся да часу —
Замочым новыя шнуркі!

Яшчэ праз дзень — сябры мне хорам:
— Пара табе ўжо што купіць!
Ці ты дарэшты страціў сорам —
Каб кожны дзень чужую піць?

Тады і я зрабіў пакупку...
І як пайшло, дык і пайшло:
Па шклянцы лыкаў і па кубку —
Ні дня прадухі не было!

І так мне радасна бывала,
Як хто падасць каманду-кліч:
— Ну, каб хвароба нас не знала,
Кульнём, сябры! Закінем лыч!

Любіў я, мушу вам прызнацца,
Закінуць так — каб аж да дна.
Дый як стрымацца-утрымацца,
Калі усюды й скрозь — яна?!

Напрыклад, трапіў я да цёткі,
А там радня — сядзіць і п'е.
Хацеў быў кінуцца наўцёкі,
А цётка шклянку падае.

Кажу: — Мне гэтае, што ў шклянцы,
Забаранілі дактары.
— Не слухай! Брэшуць ашуканцы!
Давай, пляменнічак, бяры!

Ці мо ў гасцях табе няміла?
Прыветам грэбуеш маім?
А я ж цябе ў начоўках мыла
Яшчэ маленькага зусім!..

Зірнеш, і выцерпець не ўдасца,
І — эх, было ці не было:
Няхай усіх вас возьме трасца!
І гакнеш зразу паўкіло!..

Так і дагакаўся не жартам,
І мушу шчыра далажыць:
Каліт, неўроз і два інфаркты...
А мог бы так па-людску жыць!

Цяпер дрыжу, каб не загнуцца,
І ўсім кажу, стары піяк:
«Зусім не штука — уцягнуцца.
Задача — выцягнуцца як?»

*1972*

## *Як я вучыўся жыць*

Навукі гэтай курс даецца
Зусім не кожнаму, о не!
І хай чытач не спадзяецца,
Што ён павучыцца ў мяне.

Сёй-той не надта што каб вельмі
І мог глуздамі варушыць,
А ўсе гаворыць у здзіўленні:
«Умее жыць! Умее жыць!»

А іншы й справу разумее,
І непаганая душа —
А ўсе гавораць: «Жыць не ўмее:
Няма ў запасе ні шыша!..»

Таму назад гадоў пятнаццаць
Зайшоў калега да мяне,
А сам засмучаны — няйначай
Хтось з самых блізкіх — у труне.

— На год у вёску пасылаюць,—
Адкрыў ён мне сваю бяду.
— А жонка, брат, як стала лаяць —
Крычыць: «І з месца не сыду!»

Я знаю: жонка не паедзе!
А як адзін падамся я —
Аматар знойдзецца прыгледзець!
Умэнт разваліцца сям'я!

Браток,— пусціў слязу калега,—
Дзеля малых прашу дзяцей,
Каб ты замест мяне паехаў:
Ты ж халасцяк! Табе прасцей!..

Назаўтра я ў канторы трэсту
На цэлы год пуцёўку ўзяў,
А незадоўга да ад'езду
Пра ўсё суседу расказаў.

Сусед — пунсовы, аж іскрыцца,
Ад смеху чэраўца дрыжыць:
— Табе ўжо колькі? Скора трыццаць?
Калі ж навучышся ты жыць?!.

Назад таму гадоў дзесятак
Дырэктар мой, шаноўны шэф,
Гуляў у шахматы заўзята,
І я — заўзята, як на грэх.

Аднойчы ў клубе, пры народзе,
У нас адбыўся бліцтурнір.
Убачыў шэф, што з матам пойдзе,
І кажа: «Што, заключым мір?»

І ўсе ў падтрымку зашумелі:
«Згаджайся, брат, на нічыю!»
А я кажу: «Вы ашалелі!
Ды я ж тут лёгка выйграю!»

І выйграў партыю у шэфа,
І нават не падазраваў,
Што ў гэты момант, недарэка,
Я мора Чорнае прайграў!

Назаўтра ўранку шэф гаворыць:
— Ты знаеш, брат, заяў гурма,
А — тры пуцёўкі ў санаторый:
Табе пуцёвачкі няма!

— Дык як? У Крым я не паеду?
— Так, не паедзеш, брат, у Крым!..
І вось пажаліцца суседу
Іду я з горам са сваім.

Сусед бліщчыць, як цёрты лакам,
Ад смеху чэраўца дрыжыць:
— Табе ўжо колькі? Трыццаць з гакам?
Калі ж навучышся ты жыць?!.

Таму назад гады чатыры —
На новай службе новы шэф
Мне абяцаў жыллё пашырыць.
Цаніў мяне ён не на смех.

І жыў бы і ў кватэры новай,
Але на сходзе на адным
Узяў ды ляпнуў, што ўстанова
У нас уся смярдзіць спіртным.

«Калі,— кажу я,— конскай дозай
Ды кожны дзень у горла ліць,
Дык ёсць рэальная пагроза —
Вантробы ўсе перапаліць!»

За гэткі клопат «дзякуй шчыры»
Мне шэф з трыбуны прамычаў.
Ну, а жыллё таму пашырыў,
Хто на тым сходзе прамаўчаў.

Не засталося нават следу
Ранейшай ласкі да мяне!
І зноў я жалюся суседу,
Што маю гулу на ражне.

Сусед іржэ ў адказ вясёла,
Ад смеху чэраўца дрыжыць:
— Табе ўжо колькі? Хутка сорак?
Калі ж навучышся ты жыць?!.

Пазней праз тэрмін невялічкі
Пайшоў купляць я гардэроб.
Гляджу — стаіць! Але з таблічкай:
«Прададзены». Хтосьці ўжо загроб.

А грузчык шэпча: «Гэту штучку
У нас няпроста адхапіць:
Хто хоча мець — павінен ручку
Сяму-таму пазалаціць».

Я звесіў нос ля гардэроба
І, каб паныласць апраўдаць,
Пачаў свой месячны заробак
На «састаўныя» раскладаць:

На харч прыкінуў, і на транты,
І на абутак — заадно,
Пасля — на курыва, на транспарт,
На кніжкі сыну, на кіно...

Расклаў усю сваю зарплату,
Увесь заробак з мазаля —
Каб залаціць чыюсьці лапу —
Не застаецца ні рубля!

Ды і завошта прайдзісвету
Павінен хабар я даваць?
Увечар сунуўся к суседу —
Пытанне гэтае задаць.

Сусед блішчыць, як цёрты лакам,
Ад смеху чэраўца дрыжыць:
— Табе ўжо колькі? Сорак з гакам?
Калі ж навучышся ты жыць?!.

Кажу: — Ніколі. Я — няздара.
Я — недарэка з недарэк!
Мне зроду суджана як кара —
Пражыць няўмекам цэлы век.

Я так і здырджуся няўмекам!
Але да сэрца не бяру:
Мне [redacted] толькі знаць, што чалавекам,
Што чалавекам я памру!

*1972—1973*

## *Знаўца літаратуры*

*Размова ў цягніку*

— Дык вы — паэт? Пісацель, значыць?
І з Мінска? З цэнтра? Вельмі рад!
Мне ўжо даводзілася бачыць
Раней пісацеляў... Ваш брат
Усё глядзіць, каб на заметку
Ды, гэта самае, ў газетку
Як палагаецца прабраць,
Хе-хе... Хацеў бы вас спытаць:
Гавораць, ваш адзін масціты
Багаты вельмі, што нібыта
Мільён (старымі) мае ён.
Відаць, хлусня! Няўжо мільён?..

Ну, а ці праўду кажуць гэта,
Нібы ў вядомага паэта
Сынок няважным аказаўся?
Гавораць, з хэўраю звязаўся,
Скандаліць скрозь па-забіяцку...
Хе-хе... нябось нясмачна бацьку!..

Ну, а ў таго, у драматурга,
Таксама, кажуць, справы туга?
Я чуў, што спіўся, небарака,
Які ж цяпер з яго пісака!
Гавораць, жонка тут прычына,
Хе-хе... нястойкая жанчына...
Вядома — дурасці замнога,
Дык пацягнула да другога...
А як жыве цяпер паэт —
Не помню прозвішча, забыўся,—
Што ў Слуцку абярнуў буфет?
Гавораць, трэці раз жаніўся?..
Між намі — толькі па сакрэту:

І я памог быў раз паэту.
Ён к нам прыехаў п'яны-п'яным
І — бац! — зваліўся пад парканам.
Смяюцца ўсе! Я падышоў.
«Ты хто такі?» — пытаю, значыць.
Крычыць: «Паэт Кузьма Прруткоў!
Да вас прыехаў парыбачыць!»
Я сам раней не чуў такога —
Вядома, вас, паэтаў, многа!
Але стаялі хлапчукі,
Дык я да іх: «Ці ёсць такі?»
Гавораць: «Ёсць! І кніжкі ёсць!..»
Ну, калі так, дык будзь мой госць!
Я да сябе яго забраў,
Паклаў у пуні спаць на сена,
Уранку ён са мной паснедаў...
Прыслаць мне кніжку абяцаў.
Дык калі часам, выпадкова,
Вы ўбачыце Кузьму Пруткова —
Перадавайце мой паклон.
Мяне, напэўна, помніць ён...
Далей я ўжо не мог стрымацца.
— Дазвольце мне ў вас запытацца:
Скажыце, з тых, што вы назвалі,
Вы хоць адзін іх твор чыталі?
— Хе-хе... Я проста так пытаю,
А кнігі... кніг я не чытаю!..

Чытач!
Мой друг і крытык лепшы!
Не пра цябе размова ў вершы!
Я гавару пра «знаўцаў» тых,
Што не бяруць і ў рукі кніг.
Усё, што іх цікавіць,— гэта
Старыя плёткі пра паэта.
За шчасце б іншы меў

Хоць трошку
Пачуць пісьменніка з-пад ложка.
Ну, а калі спаткае ў лазні,
То і рукамі, пэўна, ўсплясне:
— А божа мой! Дык ён жа голы —
Зусім як я! Такога ж полу!..
І доўга думацьме пры гэтым:
«Чаму ж ён лічыцца паэтам?»

*1960*

## *На чым лепшыя вершы?*

У Доме творчасці пабыўшы,
Яшчэ чупрыністы паэт,
Авоську вершамі набіўшы,
Прыпёрся зранку ў кабінет
Да шэф-рэдактара і кажа:
— Прынёс тры нізкі на выбор:
Якая з іх да сэрца ляжа —
Пускайце свежую ў набор!
Але павінен папярэдзіць:
Тут рознай вартасці тавар.
Таму прашу вас прадугледзець
І адпаведны ганарар.
Найменш за гэту патрабую:
Калі стваралася яна —
Тры разы ў дзень давалі бульбу,
А бульбе ведама цана.
Другая варта значна болей:
У тыя дні, калі складаў —
Свініне з тушанай фасоляй
Ні разу ганьбы я не даў!
Найдаражэйшыя ж — вось гэта:
Калі страсаў я іх з пяра —
Штодзень замест вінегрэта
Была чырвоная ікра!

Правёўшы пядзяй па чупрыне,
Паэт кіўнуў на ўсе на тры:
— Дык як? На бульбе? На свініне?
Ці, можа, ўсё-ткі на ікры?

Рэдактар, чмыхнуўшы сурова,
Аб стол пастукаў кулаком:
— Паэт, мой мілы, не карова,

Што — па траве і малако!
Майстры заўсёды разумелі
Сваю паэзію як лёс:
«Мы не глядзелі, што мы елі,—
Уздым у сэрцах нашых рос!»

— Няўжо ж вы лічыце, шаноўны,—
Тут аўтар выбухнуў знутры,—
Што верш на бульбе будзе роўны
Узнёслай одзе на ікры?
Ці многа ў вас хапіла б духу
Натхніцца радасцю як след,
Каб толькі з бульбай саладуху
Штодня вы мелі на абед?
Ды гэта ж азбука, нарэшце:
Які настрой — такі і верш!
А ад чаго настрой залежыць?
Ад — як жывеш і што жуеш!

Крыху задумаўся рэдактар,
Няпэўна гмыкнуў і абмяк:
— Ікра, канешне, гэта — фактар.
Вульгарызуеце, аднак!
Прашу вас: выньце з кожнай нізкі
І прачытайце верш-узор.
І вось, да мэты ў думках блізкі,
Паэт чытае першы твор:
«Пасох гарох, павяў бульбоўнік,
І сэрца звянула ў мяне:
Да Анці зноў зайшоў любоўнік
І ўжо сядзіць гадзіны дзве».

— Ну, вы адчулі,— зіркнуў творца,—
Танальнасць нізкі бульбяной?
А вось вам ода на ікорцы —
Зусім інакшы лад-настрой:

«Зіяй, дэвіз на транспаранце!
Трашчы, заморская кішэнь!
Выходзь да нас, таварыш Анця!
А тога гіцаля — ў каршэнь!»

— Стоп! — загрымеў рэдактар.— Ясна!
Каб вершы гэткія валіць —
Даволі капелечку масла
У чэрап робату заліць!
Вазьміце вашу пісаніну!
І вось парада вам яшчэ:
Не налягайце на свініну —
А то ў вас чэраўца расце.

*1973*

## *Паэту, якога прарвала ў прозе*

Дваццаць год карпеў над рыфмамі —
І не меў нічога выдаць.
А цяпер тамамі рыхлымі
Свет увесь гатоў закідаць.

## *А пры чым тыраж?*

«Быць не можа, каб сваймy я твору
Ды не даў у «свой» часопіс віз!»
І ідуць: настрой паэта — ўгору,
А тыраж часопіса — уніз.

*1958*

## *Аднаму літкансультанту*

Кансультант ты ў нас вядомы,
Шлеш парады ўсім без стомы,
Толькі знаеш, брат,—
Час прыслухацца й самому
Да... сваіх парад.

## *Знаёмаму драматургу*

Не хваліся напісанай драмаю,
Хоць і ўзялі ў тэатрах сямі:
Знаем, драму вялікую самую
Ты пакуль што стварыў у сям'і.

*1958*

## *Кожнаму сваё*

Няроўная доля паэтам даецца,
Хаця справядліва ўсіх судзіць народ:
Хто творамі ў памяці жыць застаецца,
А хто ў анекдотах — героем прыгод.

## *Якою фарбай пісаць*

Не трэба
Ні белай,
Ні чорнай.
Лепш шэрай пішы.
Не ўхваляць?
Затое й не зганяць.
Спакой на душы!

*1958*

## *Пладавітаму паэту*

Ён сыпле вершы ўсё часцей
І для бацькоў і для дзяцей.
Чытач яго ў любым узросце!
Але падчас і так бывае,
Што дзеці бацьку не зайздросцяць,
А бацька дзецям спачувае.

## *Трэба ўмець*

І трэба б гэтак ухітрыцца:
Пятнаццаць год (не нейкі час!)
Сядзіць, што ўвінчаны, ў сталіцы
І піша... толькі пра калгас.

*1958*

## *Аднаму сааўтару*

З першае заяўкі
Пнецца ў першы шэраг
Аўтар кніг... ніякіх
І сааўтар — шэрых.

## *Напалохаў*

Сказаў слуга муз,
Каб як горай даняць:
— Прымайце ў Саюз,
А то кіну пісаць.

*1958*

## *Графаману*

Не слухай іх, браток, нікога:
Любы рэдактар — гэта ж гад!
Ён толькі пхне сябе самога,
А ўсё тваё — мяце назад.

Кляні — раз нельга ўздзець на вілы!
Кляні і жонку і дзяцей
І — не здавайся: колькі сілы —
Шрайбуй, браток, шпурляй часцей!

Хоць чаго-небудзь, а даб'ешся:
Калі у друк не пападзеш,
То ўжо рэдактара, канешне,
Ты да інфаркту давядзеш!

*1959*

## *Аднаму шматтомнаму аўтару*

**Што вы сталі хваляваацца? Вы не бойцеся!**
**Вам нішто не пагражае — не турбуйцеся.**
**Як ні збэрсаеце лапаць — вы не бойцеся:**
**Крытык пальцам не зачэпіць — не турбуйцеся.**

**Вы залезлі так высока — што не бойцеся.**
**А нашчадкі разбяруцца — не турбуйцеся.**
**І на месца ўсё пастаўяць — вы не бойцеся:**
**Лапці выкінуць на сметнік — не турбуйцеся.**

*1974*

## *Літаратурнаму хапугу-ненажэрцу*

Хапай! Хапай в любой друкарні!
Хапай эфір, экран хапай!
Ані радка, ні слова ў кадры —
Нідзе нікому не ўступай!

Хоць з горла прэ і хлеб і слава —
Хапай усё, што не схапіў!
Хапай! Ты маеш гэта права:
За матчын дар яго купіў.

*1974*

## *Пытанне*

Навошта так, таварышок,
Ты пад мяне пляцеш інтрыжку?
Каб свой пасад падвысіць крышку?
Падняцца рангам на вяршок?

Пускаеш шэпты пра «грашок»,
А сам... Ды ты ў грахах, мой родны,
Як у дзядах сабака збродны...
Навошта ж так? Таварышок?..

*1983*

## «Рамантык»

Ах, як узнёсла ў кожным творы
Усё жыццё ён славіў культ
Красы, свабоды, непакоры!
Якім крылатым слыў! Пакуль...

Пакуль сусед на сорак тысяч
Аднойчы выйгрыш не прыпёр.
«Рамантык» горды з гора высах,
Счарнеў на вугаль — і памёр.

*1983*

## *Залежнасць*

То матыў, то вобраз, то радок
Ад мяне к табе перавандруе...
Не саромся, пазычай, браток:
Бог замысліў так — і бог даруе.

Думаю, лагічная ўпаўне
І залежнасць, што адкрыў я ўрэшце:
Чым ты болей крадзеш у мяне —
Тым мацней абкрадзенае бэсціш.

*1986*

## *Перасцярога цыбатым*

Хто гэта сунецца там — ліліпут-каратышка
На малюпасенькіх ножках, у мякенькіх тапках?
Гэта — хлусня. У яе ад хады ўжо адышка.
Не, недалёка зайсці ёй на гэтакіх лапках.

Толькі цыбатыя, што абмінаюць пачвару,
Ведаюць хай: у руках у пачвары палена:
Ногі наіўнаму струшчыць ад першага ўдару!
Ну, и падбітага ёй абагнаць не праблема.

*1974*

# *Паклёпніку*

Віжуй, звівайся, падпаўзай,
Пладзі [illegible] атрутнай слізі плёткі!
Які б ні быў ты ўвішны — знай:
Ты не дасягнеш мэты ўсё-ткі!

Арлам не ў страх віжня твая —
Страчаюць смерць арлы ў палёце.
А хто слізгуе між куп'я —
Той там і кончыць: у балоце.

*1983*

## *Зайздросніку-сапуну*

Чаго ў абедзве дзіркі
Сапеш, мой дарагі?
Табе вядро заціркі
Нальюць па берагі.

Ты вывурзгаеш гушчу,
А жыдзялёк — сап'еш.
І многа, і па густу,
А ўсё адно — сапеш.

*1983*

## *Ярлычніку-біркачу*

Ярлык, што здзёр ты прымусова —
Па волі божай і людской,
Далёка дужа не засоўвай:
Хай будзе блізка, пад рукой.

А раптам знойдзе бог прыдзірку
І коса ў бок мой спазірне?
Ты тут жа зноў старую бірку
Начэпіш першы на мяне!..

*1983*

## *Шчыры дзякуй...*

Шчыры дзякуй за сяброўства,
За павагу, за давер
І за ўсё, што гэтак проста
Раптам рухнула цяпер.

Я не знаў, што ваша слова —
Як даспелы дзьмухавец:
Хукнуў ветрык — і гатова:
Дружбе-вернасці — канец!

*1983*

## *Адкуль нездароўе*

Плачашся, што выпетраў, як мошчы.
А павінна ж бы здароўе быць:
Не грашыш, не ходзіш на любошчы,
Кінуў піць і перастаў курыць.

Хоць не ўрач — ад гэтай кары божай
Я збавенне ведаю,— чытай:
Не лічы, браток, чужыя грошы —
Дык здаровы будзеш, як бугай.

*1983*

## *Аднаму нібыта дабраку*

Дзіўлюся я з дыяпазону
Тваёй натуры дабрака:
І Тыгру служыш — і Бізону,
І Зайца хваліш — і Ваўка,
І Салаўю дружбак — і Кобры,
І Лось твой прыяцель — і Рысь...

Ты і з Блыхою нават добры:
Мяне ўгрызе — табе карысць.

*1983*

## *Змагар*

«Ох і рвач! Ні кроку без рахубы!
Так і шчэрыць на рубель мой ляпу!
Ох, не сцерплю! Ох, і дам у зубы!..»
Охаў, охаў так — і даў... у лапу!

## *Доктар Мацак*

Мацаў пульс я ў Люсі, Дусі,
І ў Рэні я мацаю.
Ім памог, а сам кладуся
У рэанімацыю.

*1986*

## *Замова ад тупасці, каб не страціць пасаду*

Цябе, божа, заву,
І прашу, і малю:
Укладзі ў галаву
Мне глуздоў хоць крышку —
Хоць адзін шуфель,
Хоць адну лапату,
Хоць адзін чарпак,
Хоць адну лыжку!
Бо ў мяне іх мала
І мне цяжка стала
На такой пасадзе,
На такім акладзе.
Ужо трыццаць гадоў
Крэсла я займаю,
А ў чарапцы глуздоў
Грам пятнаццаць маю.
Ды і тыя, можа,
Зацвілі, заплеснелі...
Памажы мне, божа,
Дацягнуць да пенсіі!
Амін!

## *Замова ад раўнадушша і бюракратызму*

Малады маладзік,
Ты па небе хадзіў,
А не бачыў ні зорак,
Ні яснага сонца,
А не чуў ні стукату,
Ні грукату.
Так і мне:
Завязала вочы слепата,
Залажыла вушы глухата,—
Не чую, не бачу
Ні скаргаў, ні плачу,
Ні просьбаў, ні мольбаў:
ні дзявоцкіх,
ні жаноцкіх,
ні хлапецкіх,
ні старэцкіх,
ні ад хворых,
ні ад здаровых.
А йдзі ж ты, слепата,
Ідзі, глухата,
На лясы дрымучыя,
На пяскі сыпучыя,
На балоты імшыстыя,
На берагі беражыстыя,—
Там ваша племя і род,
А мяне выбіраў народ!
Цьфу! Цьфу!

## *Замова п'яніцы*

Гарэліца-беліца,
Свянцоная вадзіца,
Усясільная царыца!
Каб ты ведала, як я смягну,
Як цябе кожнай жылкай прагну!
Без цябе ў мяне ў горле сушыць,
Без цябе мяне штосьці душыць,
Колькі жыць буду — не нап'юся,
На цябе на адну малюся:
Каб дзешавела — не даражэла,
Каб прадаўцы напавер давалі,
Каб знаёмыя грошы пазычалі,
Каб прахожыя рук не тапталі
          ні каля плота,
          ні ля дарогі,
          ні пад сцяною,
          ні пад піўною,
Каб сабакі морду не лізалі,
Каб дружыннікі не заўважалі,
Каб памалу з зямлі падымалі,
Каб асцярожна ў машыну клалі,
Каб назаўтра расол падавалі —
Быў бы я цэлы век здаровы...
Хай жа спраўдзяцца мае словы!

## *Замова ад прыпісак і самахвальства*

Жыла-была жаба,
Хвалілася жаба,
Што ў яе лугі ўсе — заліўныя,
Што ў яе ўсе рэкі — малочныя,
Што ў яе ўсе травы — мядовыя,
Што ўсе ураджаі — стопудовыя.
Узляцела жаба
Высока-высока,
Звалілася жаба
Ажно з-пад аблокаў,
Жвякнулася жаба
На камень бліщчасты,—
Разбілася жаба
На дробныя часткі,
На макавы зерні,
На грэцкія крупы,
Бо была у жабы
Адна гнілая купіна.
Вось і ўсё!

## *Замова ад падхалімства*

Першым разам,
Добрым часам!
Зара-зараніца,
Ранішняя і вячэрняя,
Памажы, царыца,
Чалавеку нікчэмнаму.
Хоць не божы ён — ды раб,
Хоць здароўем не аслаб,
Не ломіць паясніца
І не баляць вантробы,—
Ратуй яго, царыца,
Ад нелюдской хваробы:
Каб не лізаў так часта
Ён роднаму начальству
Ні наскі, ні пяткі,
Ні ля пупа складкі,
Ні хрыбтовай косці,
Ні сярэдняй часці,
Ні спераду забягаючы,
Ні збоку заглядаючы,
Ні ззаду даганяючы,
Ні знізу падпаўзаючы!
Хай адчуе, што ён чалавек
Ныне, і прысна,
І навек!

## *Замова ад рэнегацтва*

З бацькоўскаю малітваю,
З матчыным благаславеннем
Стану я каменным слупам,
Абтынюся жалезным тынам,
Дробнымі зорамі абгараджуся,
Ясным месяцам асвячуся,
Падпаражуся чырвонай зарою,
Абкрыюся небам, зямлёю,—
Каб мяне не крывіла,
Каб мяне не муціла,
Каб мяне не рвала,
Каб з мяне пляўкі не гнала
На ўсё дзядоўскае,
На ўсё бацькоўскае,
На ўсё матчынае,
На ўсё спадчыннае,
На бацькаву мову,
На матчыну песню,
На бацькаву гордасць,
На матчыну годнасць:
Каб і мяне людзі
Знала-паважалі
Сёння, і заўтра,
І вечныя векі!
Амін!

# *Замова ад хабарніцтва*

Устану я рана,
Пайду на ўсход сонца,
Пад чыстыя зоры,
Пад ясны месяц,
Умыюся расою,
Крынічнаю вадою.
Папрашу я месяц і зоры:
«Памажыце мне ў цяжкім горы!
Нібы люты звер,
Мяне мучыць сверб —
Ні на спіне, ні на баку,
Ні ў пятках, ні на языку.
Свярбіць мая лапа — хоць адрэж.
І пакуль чырвонцам не паскрабеш,
Да таго, халерная, свярбіць,
Што нічога не магу зрабіць:
Ні даведку выдаць,
Ні рэзалюцыю накласці.
Ратуйце ж мяне ў няшчасці!
Амін!»

## *Замова мнагажонца ад праследавання*

У моры-акіяне,
На востраве Буяне,
Вырасла былінка
Ад зямлі да неба,
Мне на той былінцы
Ратавацца трэба,
Уцякаць ад жонак,
Што з усіх старонак:
Ад першай — што многа раджала,
Ад другой — што не дагаджала,
Ад трэцяй — што на работу гнала,
Ад чацвёртай — што зарплату спаганяла,
Ад пятай — што выпіць не давала,
Ад шостай — што, як біў, крычала...
Адкаціцеся,
Адваліцеся,
Разам з дзеткамі,
Малалеткамі!
Як ра́цэ назад не плыць,
Так нам разам не быць,
Як зімою кветкам не красаваць,
Так мне вас не гадаваць!
Хоць так,
Хоць сяк,—
Я ізноў халасцяк!

## *Замова загадчыка склада*

Чорт, чорт,
Чортава радня
Ўзычыла мне корці:
Не магу пражыць і дня,
Каб чаго не спёрці.
Вазьму чорны пояс
Ды з трыма канцамі:
На адным — усушка,
На другім — утруска,
А на трэцім — псута,—
Не мая пакута.
Пайду к акіяну,
На беразе стану:
Акіян, акіян,
Цёмны ты, як і я!
Не дазволь жа аддаць
Мяне ў бяду,
Памажы мне схаваць
Канцы ў ваду!
Гіра!

## *Замова ад нізкапаклонства*

З-за мора, з-за акіяна
Прыйшоў госць нечакана,
Як на ганак узвысіўся,
Пазбягаліся ўсе вісусы:
  А стракатыя!..
  А паласатыя!..
  А вусатыя!..
  А барадатыя!..
  А даўгагрывыя!..
  А ўсе саплівыя!..
Як стаў госць-дабрадзей
Сувеніры дзяліць:
Першаму — каснічок,
Другому — матузок,
Трэцяму — іголку,
Чацвёртаму — прыколку,
Пятаму — два гузікі,
А шостаму — трусікі,
Сёмаму — падвязку...
Дзякаваць за ласку!
Як пачалі саплякі
Дабрадзея цмокаць:
Першы — у далоньку,
А другі — у локаць,
А трэці — у лытку
(Ад пачуццяў збытку),
Чацвёрты — ў каленца
(«Ваша экселенца!..»),
Пяты — ў паясніцу
(«Ах, каб за граніцу!..»),
Шосты — у бачок,

А сёмы — ў кумпячок...
Уздыміся ж, бура,
Ураган-віхура,
Каб з галоў іх вецер
Выдзьмуў, вымеў смецце:
Бруднае,
Паскуднае,
Не сваё — прыблуднае,
Дэгенератычнае,
Касмапалітычнае!
Амін!

## *Замова ад лавы падсудных*

Пайду я ў цёмны лес,
У пушчу векавую,
Знайду там асінку —
Не роўную, не крывую.
Асінка, асінка,
Вазьмі маю трасінку,
Аддай маё здароўе!
Як прайшлі паўз цябе
Дрывасекі міма —
Няхай гэтак пройдзе
Каля магазіна
Рэвізор-разіня,
Каб ні ўдзень ні ўночы
Я не ведаў мукі,
Каб ў мяне ад страху
Не трэсліся рукі,
Жылкі і паджылкі,
Дробныя суставы,
Не давядзі, божа,
Да падсуднай лавы!
Амін!

## *Замова юнага вісуса — каб болей з бацькавых кішэняў вытрасці*

Ішоў бамбіза
Дваццаці гадоў
Не цягаць мяшкі
Па сем пудоў,
Не грузіць калоды,
Не скалу драбіць,—
Ішоў бамбіза
Бацькоў «бамбіць»:
«Папахан, мамахан!
Вы файныя продкі!
Весялей жа, весялей
Выдавайце сродкі!
Вы ж мае карміцелі
І мае паіцелі,
А я ваш нашчадак
І выйшаў з дзяцінства:
Цыркаць па чырвонцу —
Гэта проста свінства!
Дайце зразу кучу,
Я зварганю бучу —
Каласальную!
Шэдэўральную!
Патрасальную!
Вытрасальную!
О'кэй!»

## *Замова ад хваробы рук у крытыка-аглабельшчыка*

Ішлі тры брацця —
Усе яны Кандрацця,
Ішлі тры панны —
Усе яны Ганны,
Селі на касагоры,
Сталі пісаць творы,
Ды па свайму густу —
На зло, на распусту...
А ў мяне ёсць дома
На іх спіну доўбня,
Ёсць яшчэ й аглобля —
Надта смаліць добра!
Толькі як жа мне іх сперануць,
Калі рук не магу пакрануць?
Дай мне, божа, моцы,
Вярні, божа, сілу —
І я гэтых творцаў
Заганю ў магілу,
У сухія лясы —
На сівыя верасы,
У гнілыя балоты —
На чорныя калоды,
Дзе вецер не вее,
Дзе сонца не грэе,
Дзе людзі не ходзяць,
Птушкі не лётаюць!

## *Замова ад балбатні*

**Плылі тры рэчкі —
Не самацечкі:
Адна была жытняй,
Другая — малочнай,
А трэцяя — поўная
Балбатні салоджанай.
Адна — з поля роўнага,
Другая — [redacted] кароўніка,
А трэцяя рака
Лілася [redacted] языка.
Першая — працячы,
Другая — працячы,
А трэцяя — спыніся,
Замкніся, перарвіся!
Як нябожчыка не абмаладзіць,
Так языком жыта не абмалаціць!
Як з пяску вяровак не звіваць,
Так языком масла не збіваць!
Цьфу! Цьфу! Цьфу!**

## *Замова ад рэдактарскага алоўка*

На моры, на ўзмор'і,
На тым лукамор'і
Ёсць мур-камяніца,
Светлая святліца.

Там жыве аловак —
Дужа спрыцен-ловак.
Падыду я блізка,
Пакланюся нізка.
Аловак, аловак,
Пачуй маё слова:

Хто к табе ні прыйдзе —
Ты дарма не крыўдзі:
Ні старых старыкоў,
Ні ўдалых дзецюкоў,
Ані першажонца,
Ані другажонца!
Не звяртай ты ўвагі
На чыны і рангі,
На пасады й званні
І ў якім хто ўбранні.

Не глядзі на твары,
А глядзі на творы!
Крэслі ты халтуру
Ды макулатуру,
Крэслі плагіяты,
Доўгія цытаты,
Фальш і пошласць крэслі —
Век каб не ўваскрэслі!
Ад добрага ж твора
Ты без угавора
Зразу адкасніся

І не дакраніся!
Цётцы або дзядзьку,
Што па-забіяцку
Аўтараў нявечаць,
Рэжуць і калечаць,—
У рукі не давайся,
З пальцаў вырывайся!
У праўдзівай песні
Ні радка не крэслі,
Бо, як будзеш крэсліць,
Тваё «сэрца» трэсне,
Скрышыцца на мак.
Хай жа будзе так!

*1961—1962*

## *Трэба дык трэба*

Зайшоў у хату поп у госці,
Усе вітаюцца з ім цёпла,
Адзін пяцігадовы Косцік
Сядзіць і зіркае спадлоб'я.
Ну, бацьку гэта разгнявіла —
У хаце ж госць надзвычай рэдкі!
— Ідзі скажы айцу Кірылу
«Дзень добры», ёлупень ты гэткі!
Малы сканфузіўся, аднак жа
Саскочыў спрытна з табурэткі,
Падаў руку папу і кажа:
— Дзень добры, ёлупень ты гэткі!

## *Супакоіў*

— Ты не звяртай увагі, сват,
Што стаў на вуха тугават.
У рэшце рэшт Сцяпан Круты
Намнога больш глухі, чым ты.
— Што, што?
— Кажу: Сцяпан Круты
Намнога больш глухі, чым ты!
— Крычы мацней!
— Сцяпан Круты,

Кажу, той больш глухі, чым ты!
— Яшчэ мацней! Не ўчуў нічога!
— Кажу: глухі ты! Горш Крутога!

## *Гатова памагчы*

— Ты дзівішся, суседачка мая,
Чаго так раптам пабляжэла я?
Дзве тысячы мне трэба да зарэзу —
І ні да кога ў доўг ніяк не ўлезу!
Тры ночы ўжо з-за гэтага не спала!
— Чаму ж ты мне нічога не сказала?
— А што — хіба ты можаш памагчы?
— Вядома! На цяжкі выпадак гэткі —
Ёсць вельмі моцныя ў мяне таблеткі:
Як вып'еш — дрыхнеш запар тры начы!

## *Просты спосаб*

*Размова сябровак*

— Нарэшце ўчора я абстрыгла
Свайго сабачку нагала,
Бо ўжо адрозніваць абрыдла,
Дзе хвост яго, дзе галава.
— Дарма! Дарма! О бедны пусік!
Пазнаць прасцей як двойчы два:
Шчыпні за хвост — і калі ўкусіць,
Дык, значыць, гэта галава.

## *Засумняваўся*

— Што з табою? — запыніўся
Сябра Саўка ля Міколы.—
У нядзелю ажаніўся,
А ўжо сёння невясёлы?

— Знаеш, стаў я сумнявацца,
Што не будзе мая Люба
Гаспадыняй гэткай хвацкай,
Як здавалася да шлюбу.

Мне аж блага ўчора стала —
Ледзьве-ледзь хапіла нерваў,
Як яна яйцо ўскрывала
Адкрывалкай для кансерваў...

## *Двое роўных*

— У Афрыцы спаткаўся я з ільвом,
А стрэльбы не было, брат, пад рукой.
Гляджу: на зэдліку вядро з вадой,
Дык я схапіў і гэнаму ільву
Калі чабэхнуў, брат, на галаву —
Ён так папёр — адно мільгнуў хвастом!
— А-а-а, вось цяпер усё я зразумеў!
І я ж па Афрыцы блукаў тады,
І мне наўрэўся гэны самы леў.
І я магу засведчыць: сапраўды,
Як я пагладзіў між вушэй ільва —
Дык яшчэ грыва мокрая была!

## *Напалавіну перканала*

— Я так хачу веласіпед купіць!
Штодня даводжу мужу, як карысна
І як прыемна на паветры чыстым
Педалі хоць гадзіну пакруціць.

— І што? Згадзіўся з довадамі ён?
— Не да канца пакуль. Напалавіну:
Учора швейную маю машыну
Ён перанёс з пакоя на балкон...

## *Сучасны тэмп*

Да дырэктара заскочыў
Хлопец-зух на перапынку:
— Я прашу вас вельмі: дайце
Дзён пятнаццаць адпачынку!
Справа ў тым, што я жанюся
І мая нявеста хоча —
Каб запомніць гэта свята —
Дзесяць дзён правесці ў Сочы.
— Ну, дык дзесяць! А навошта
Будуць пяць яшчэ глуміцца!
— Як навошта? Пяць мне трэба,
Каб знайсці, на кім жаніцца!

## *У доктара*

— Памажыце, доктар: нешта
З мужам сталася маім.
Захварэў, відаць, нядобра...
— Ну, а што ж такое з ім?
— Ды, бывае, тры гадзіны
Языком я малачу,
А пасля — гляджу і бачу:
Ён ні слова не пачуў!
— І ўсяго? Тады не страшна.
Не памрэ ваш гаспадар.
Гэта, цётка, не хвароба!
Гэта, цётка, божы дар!

## *За гэта не перажывай*

Жонка, зваленая грыпам у пасцель,
Просіць мужа: — Абяцай, што як памру...
Мужу слухаць просьбу гэткую няўсцерп:
— Перастань! Во для цябе таблетку тру!
Заўтра ўжо ты будзеш чуцца здаравей...
Але ўпарта паўтарае жонка зноў:
— Пакляніся: калі я пайду навек...
— Дарагая, кінь! Не трэба марных слоў!
— Не, ты выслухай наказ апошні мой!
Хай жанчына, што заменіць тут мяне,
Не адзене маёй транты ні адной,—
Ані плашч, ні паліто не апране!..
— Го! Па гэтым не баліць хай галава:
За цябе яна таўсцей разы у два!

## Мудрая прапанова

Бяруць развод Рыгор з Аленай,
Ды падзяліць дзяцей праблема:
Бо трое ў іх было народзін,
А двое ўзяць ніхто не згодзен.
Нарэшце, ўспляснуўшы рукамі,
Алена кажа да Рыгора:
— Давай тады мы пачакаем,
Пакуль не стане іх чацвёра!

## Суцешыла

Суседка суседцы нядолю кляне:
— Нутром усім чую і плачу:
Ён толькі таму ажаніўся на мне,
Што маю машыну і дачу.

— Дык ты супакойся і лёс не кляні,
Што ўзяў ён цябе дзеля выгад:
Прынамсі, не гэтакі ўжо ён дурны,
Як можна падумаць на выгляд.

## *Хаваймася, тата!*

Убачыў аднойчы ў кіно Ігарок,
Як фарбамі твары малююць індзейцы,
І ў бацькі спытаўся (цікаўныя дзеці!):
— Навошта яны сябе мажуць знарок?
А бацька ў адказ: — Гэта значыць, яны —
Да бітвы рыхтуюцца, сын, да вайны.
Назаўтра ж уранку, падняўшыся шустра,
Малышык да бацькі ўляцеў у пакой:
— Хаваймася! Мама стаіць перад люстрам —
Рыхтуецца йсці на кагосьці вайной!

## *На ўроку прыродазнаўства*

— Дзеці, вось вам і дзіва ў прыродзе.
Птушаняткі маленькія самі
Разбіваюць шкарлупкі насамі
І выходзяць на свет. Цуд; дый годзе!

— Не! — крутнуў галавою Алесік.—
Што выходзяць — тут дзіва малое.
Большым цудам здаецца мне тое,
Як яны пад шкарлупку залезлі?!

## *Згодна і лыжачкай*

Мама — у гасцях з маленькай Лізачкай.
За сталом гаворыць ёй з дакорам:
— Торт у мёдзе трэба есці лыжачкай,
Пальчыкамі есці — стыд і сорам!

Аблізала пальцы паслухмяначка
І сказала — ганьбу каб адвесці:
— Пакладзі яшчэ кавалак, мамачка,
Я ўжо буду лыжачкаю есці.

## *Зусім другая справа*

Стрэўшы сына каля аўтамата,
Што цукеркі прадае за дробязь,
Абурыўся і ўзлаваўся тата:
— Марнатраўцы толькі гэтак робяць!
Колькі гаварыць мне, недаверак,
Што псуюцца зубы ад цукерак?
І сказаў сынок у апраўданне:
— Тата, гэты аўтамат-разява
За фальшывы грыўеннік прадаў мне...
— А-а, тады зусім другая справа!

## *Сам ведае*

Хлапец вядзе за горадам машыну:
Адной рукой трымаецца за руль,
Другою ціске да сябе дзяўчыну.
А тут — дарожны кантралёр-патруль!
Дагнаў на матацыкле, параўняўся:
— У дзве рукі, у дзве рукі, юнак!
— Што лепш у дзве—я сам пераканаўся,
Ды не магу ж я руль пакінуць так!

## *У зубнога ўрача*

— Трэба вырваць зуб ваш кутні,—
Пацыенту ўрач сказаў.
Затрымцеў, збялеў пакутнік,
Ледзьве з крэсла ён не ўпаў.
Доктар, бачачы такое,
Спірту чарачку нясе.
Лыкнуў той для супакою —
Усё роўна страх трасе.
Доктар зноў яму адмераў,
Потым трэцюю падаў.
— Ну, я думаю, цяпер вы
Пасмялелі? — запытаў.
— Яшчэ як! — усклікнуў хворы
І сярдзіта бровы звёў:
— Хай цяпер мне хто-каторы
Дакранецца да зубоў!

## *Дым — не бяда*

— Дык, значыць, вы развод рашылі ўзяць
Па той прычыне, што цярпець не можаце,
Як жонка ў ложку курыць, лёгшы спаць?
З-за дыму да такой дайшло варожасці?
— О, добры суд, не ў тым яе віна.
Я дым сцярпеў бы! Што ад дыму станецца?
Ды замест попельніцы кожны раз яна
Маім няшчасным вухам карыстаецца!

## *На сабачым рынку*

Нейкі пан пытае ў мужыка:
— Колькі хочаш ты за шчанюка?
— Трыста злотых — толькі і ўсяго.
— У-у, цана бязбожна завялікая!
Да таго ж — ён левым вокам лыпае!
Ён з заганай? Што гэта ў яго?
— То ж ён знак мне робіць, проша пана,
Каб не прадаваў я гэтак танна.

## *Выгада паліглота*

Каля нары мышынай кошка
Уселася ў чаканні ўдачы.
Папільнавала гэтак трошку
Дый забрахала па-сабачы.

А мыш падумала, пачуўшы:
«Дзе ёсць сабака — кот ні блізка!»
І з норкі выскачыла тут жа,
І дачакала ўдачы кіска!
Пахрубастала [illegible] асалодай
І пір закончыла высновай:
«Як добра ўсё-такі валодаць
Хаця б адной замежнай мовай!»

## *Дзве вароны*

Глядзелі з дрэва дзве вароны
На рэактыўны самалёт.
— Ты бачыш? Вецер не дагоніць!
Вось гэта птушка! Ну і лёт!
— А што ты дзівішся, суседка?
За ёй вунь дым на паўнябёс!
Ты паляціш яшчэ не гэтак,
Калі табе падпаляць хвост!

## *«Навуковая» спрэчка*

У застоллі, пры поўнай пасудзе,
Двое тэму для спрэчкі знайшлі:
— Нізашто не паверу, каб людзі
Ды ад малпаў касматых пайшлі!

— Ну, а мне, калі рэзаць напраўдзе,
Важна тое, што я — чалавек!
А што, кажуць, быў малпаю прадзед —
То не клопат маёй галаве!

— Можа, вам і ўсё роўна, прабачце,
І абраза душу не грызе.
Але як было вашай прабабцы
Жыць з гарылам або шымпанзэ?!

*1974—1978*

---

## *А тады ўжо і сам*

Сышліся двое ў летнім садзе.
— Здароў, мой братачка!
— Здароў!
— Ці ты яшчэ ўсё на пасадзе,
Ці ты ўжо корміш галубоў?

— Ды не! Яшчэ ў сваёй управе!
Яшчэ сяджу — як мае быць!
Дачку на пенсію адправіў,
А сам — хацеў бы паслужыць.

Дасць бог — яшчэ і мару здзейсню:
Гадоў праз наццаць правяду
Унучку большую на пенсію,
Ну, а тады ўжо й сам пайду.

*1987*

## *Пра старшыню, быка і сілас*

Зваўся бык у нас Лабатым
(Трэба ж клічку мець сваю!).
Напрадвесні цяжкавата
Давялося бугаю.

Частавалі сенам посным,
І таго — адзін касмык.
З той пары і сёння злосны,
Не ў гуморы ходзіць бык.

Старшыня калгаса Хведар
Пра настрой быка не знаў,
І аднойчы каля фермы
Ён ласкава запытаў:

— Ну, чаго, чаго ты, быську,
Касавурышся на нас?
Бугая, прызнацца, зблізку
Бачыў Хведар першы раз.

Лоб шырокі, як кавадла,
Карак-хіб не знаў ярма.
Быў разумны, хітры, падла,
Помніў — хутка зноў зіма.

Абышоўшы цётак бокам,
Ён капнуў зямлю, зароў —
Старшыню у момант вока
Пакаціў як быў здароў.

Бедны Хведар, бы спрасоння,
Усяго й запомніць мог,

Што у нейкае бяздонне
Паляцеў з бычыных рог.

Ачуняў — уверсе прама
Неба сіняга квадрат.
Што за ліха: студня? Яма?
Яма! Сіласная, брат!

Ох, адбіў, пракляты, плечы
І пячонкі ўсе адбіў...
Як бы добра, як дарэчы,
Каб у яме сілас быў!

*1956*

# *Бегла кошка*

***Тыповы сучасны верш для малечы***

**Бегла**
**Кошка**
**Па надворку,**
**А мышонак**
**Шусь**
**У норку!**
**Толькі**
**Хвосцік**
**Паказаў...**
**Без канца б**
**Я так**
**Кілзаў!**
**Нічаво,**
**Што непісьменна,**
**Для дашкольнікаў**
**Сайдзёць!**
**Дый рэдактар,**
**Несумненна,**
**Там,**
**Дзе трэба,**
**Давядзёць!**

***1961***

# Восень

*Перайманне*
*з «наватараў»*

Восень — бяззубая, лысая восень!
Пшыкае ў лузе зрудзелая порхаўка,
Лезе ў гароды пражэрлівы вусень,
Лес атрасаецца жоўтаю перхаццю.
Толькі й чутно, як дзятлы-эскулапы
Стукаюць моцнымі дзюбамі ў пушчы.
Дрэвы бязмоўныя, як асталопы.
Гумны разінулі чорныя пашчы.
Рыжай лісіцаю сцелецца верасень,
Хмары у небе — трыбухатыя каровы.
Не бяда, што ні сэнсу,
Ні ладу ў вершы.
Затое, глядзіце,
Як рыфмуецца здорава!

*1961*

## *Успаміны*

Мала знаеце вы, малалеткі,
Пра мінулы, пра далёкі час.
Ну, нічога! Пазнаёмлю, дзеткі,
З біяграфіяй сваёю вас.

Я ж таксама, помніцца, калісьці,
Як ні дзіўна вам, маленькі быў
І, бясстрашна лежачы ў калысцы,
Вельмі ножкамі брыкаць любіў.

Маці совала у рот мне соску,
Гаварыла: — Ссі, дзіцятка, ссі!..
Толькі я адкідваў па-геройску:
Маннай кашкі мне, маўляў, нясі!

Помню: з плаксаю-дзяўчынкай нейкай
У пясочку я любіў гуляць.
Помню: штонікі насіў на шлейках
І не ўмеў іх ззаду адшпіляць.

Потым дзесяць год правёў у школе.
Не папаў, аднак, на факультэт
І таму ўжо не вучыўся болей...
А цяпер я ўжо даўно паэт.

І вось бачыце: пішу ўспаміны,
Хай чытае, ведае народ.
У мяне, дарэчы, іманіны:
Заўтра стукне роўна... дваццаць год!

*1959*

## *Размова*
## *ў адным замежным рэстаране*

— Скажы ты мне, афіцыянт,
Які ў вас каэфіцыент
Калорый мае правіянт,
Што з'еў я зараз як кліент?
Мне трэба ехаць па цэмент,
Што прадае негацыянт,
Дык добра б знаць каэфіцыент,
Каб не сказалі: сімулянт.
І адказаў афіцыянт:
— Ты не кліент, а пацыент.
Калі б я быў паліцыянт,
Ты б не паехаў па цэмент!

*1971*

## *Кулінарна-музычная залежнасць*

*Парада для музыкантаў*

Пад'еўшы кашы картаплянай,
Прыемна граць на фартэп'яне,
А насадзіўшыся каўбас,
Прыемна стаць за кантрабас!

Схаваўшы скварку за губой,
Прыемна ў губы ўзяць габой,
Але калі ўжо з'еў філей ты —
То лепш прыгубіцца да флейты.

Калі ты дробную еў рыбку,
То вельмі добра ўцяць у скрыпку,
Калі ж аддаў пашану карпу —
То лепш, вядома, стаць за арфу.

Умяўшы мяса кавал добры,
Прыемна вельмі граць на домры,
Калі ж ты груцы ўпёр саган —
Загрукай лепш у барабан!

*1971*

# Змест

*Вершаваныя апавяданні і фельетоны*



*Эпіграмы*

*Замовы*



*Жарты і гумарэскі*

З кайстры народнага смеху

*Пародыі*

**Гілевіч Н.**

Г 47 Кантора: Сатыра і гумар.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 166 с.

ISBN 5-340-00188-1.

Гилевич Н. Контора: Сатира и юмор.

З пазіцый здаровага народнага погляду на жыццё аўтар высмейвае розныя негатыўныя з'явы нашай рэчаіснасці, малюе запамінальныя тыпы прайдох ад навукі, культуры, літаратуры, хапуг, кар'ерыстаў, бюракратаў, пустазвонаў. Напісаныя ў фальклорных традыцыях сатырычныя і гумарыстычныя творы Ніла Гілевіча чытаюцца з цікавасцю, запамінаюцца.

Г $\frac{4702120202-028}{М 302(03)-89}$ 45—89 ББК 84 Бел 7

*Литературно-художественное издание*

**Гилевич Нил Семенович**

**КОНТОРА**

Сатира и юмор

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Гілевіч Ніл Сямёнавіч**

**КАНТОРА**

Сатыра і гумар

Рэдактар Хв. Д. Жычка
Мастак М. Р. Казлоў
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава
Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч
Карэктар Н. У. Доваль

ІБ № 3031

Здадзена ў набор 16.05.88. Падп. да друку 05.12.88. АТ 09633. Фармат 70×90$^{1}/_{32}$. Папера афс. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 6,14. Ум. фарб.-адб. 6,29. Ул.-выд. арк. 5,39. Тыраж 11 000 экз. Зак. 1441. Цана 75 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005 Мінск, Чырвоная, 23.